PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (2090) Год XLI Беласток 2 чэрвеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

## Інцыдэнты не пашкодзяць нашай дружбе

**Інтэрв'ю з надзвычайным і паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктарам БУРСКІМ.**

*— Ваша місія ў Польшчы пачалася ў не надта спрыяльны час. Такога напружання між Польшчаю і Рэспублікай Беларусь не было ад усталявання дыпламатычных зносін між дзвюма краінамі.*

— Сапраўды, пачатак маёй працы ў ролі пасла і ўручэнне вярыцельных граматаў прэзідэнту Кваснеўскаму супалі з канфліктнымі сітуацыямі. Гэта звязана з падзеямі, якія прайшлі 26 красавіка ў Мінску. Сабралася тады грамадскасць, каб выказаць свае адносіны да гэтага вялікага няшчасця, якое звалілася на Беларусь. І тое, што гэта шэсце, гэтую гуманную акцыю народа многія пастараліся палітызаваць, большасцю нашага насельніцтва не ўспрымаецца. Я думаю, што ўсе прагрэсіўныя людзі мінскі інцыдэнт успрынялі з горыччу. Тым больш, што нам усё часцей дапамагаюць звонку. У авангардзе гэтай маніфестацыі ішлі ўкраінцы з арганізацыі УНА-УНСО.

Калі гаварыць пра тую вялікую кампанію, якая разгарнулася вакол лідэраў Беларускага народнага фронту і іх вяжу па Польшчы. Я хацеў бы сказаць, што іх акцыі рэзка палі, аб чым сведчаць і выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, калі БНФ не атрымаў ніводнага мандату. Цяпер, замест шукаць згоды, весці дыскусію ў сябе, яны шукаюць падтрымкі ў свеце. Але такія выезды не прыносяць ім прэстыжу.

Што тычыцца здарэння з прадстаўнікамі „Салідарнасці", дык ёсць афіцыйная заява нашых улад, якая ўсё тлумачыць. Я думаю, што было прынята правільнае рашэнне аб скарачэнні тэрміну іх пабыўкі. Гаворыцца, што „Салідарнасць" была запрошана нашымі незалежнымі прафсаюзамі, тым часам іх дзейнасць у Беларусі перапынена рашэннем Міністэрства юстыцыі. Выбачайце, але прыязджаць у краіну, каб перадаць свой вопыт, каб вучыць грамадзян, як змагацца са сваім урадам, каб абвастрыць абстаноўку, я думаю, ніхто ў сваім доме такога не перанясе.

*— Але польскія палітыкі, незалежна ад разыходжанняў між імі, у гэтай справе былі згодныя. Усе, уключна з прэзідэнтам Кваснеўскім, выказалі абурэнне такой трактоўкай польскіх грамадзян.*

— Не, ваша кіраўніцтва, і Кваснеўскі, і Цімашэвіч сказалі, што трэба разабрацца ў абстаноўцы. Кожнае дзяржаўнае кіраўніцтва бароніць сваіх грамадзян, але ж афіцыйным асобам нельга так паступаць — ехаць у чужую краіну з асветнай місіяй. Эва Спыхальска сказала, што яе прафсаюз не паступіў бы так. Пакуль прыняць нейкае рашэнне, трэба перш падумаць.



*Пасол Віктар Бурскі (справа) і консул Міхаіл Слямнёў.* Фота А. ВЯРБІЦКАГА

*— А што адказаў МЗС Польшчы на Ваш пратэст у сувязі з пікетам пад консульствам у Беластоку?*

— Пікет быў ацэнены так, што не было парушэння законаў пікетчыкамі, ні занядбанняў з боку органаў правапарадку. Сам факт спалення партрэта гэта вандалізм, але партрэт не з'яўляецца дзяржаўным сімвалам. Мы ацэньваем, што спаленне партрэта галавы дзяржавы, гэта знявага народу. Тым больш непрыемна, што ў акцыі ўдзельнічаў, а нават кіраваў ёю дэпутат польскага Сейма.

*— Ці апошнія здарэнні гэта толькі інцыдэнты, на якія ўсе хутка забудуцца, ці можа яны ўпісваюцца ў шырэйшы кантэкст? Скажам, Польшча ідзе ў НАТО, а міністры абароны Расеі і Беларусі складаюць дэкларацыю аб дыслакацыі вялікіх вайсковых часцей каля польскай мяжы. Ці тут не нарастае нейкі псіхоз між двума бакамі, якія памалу крышталізуюцца?*

— Я хацеў бы выказваца словамі нашых прэзідэнтаў, калі яны сустрэліся ў Белавежскай пушчы: дзяржава мае права выбраць сваю дарогу, якою ёй ісці, таксама да якога блока далучыцца. Мы не супраць таго, што Польшча хоча ў Еўрасаюз і НАТО, гэта яе справа. Нас непакоіць, што ідзе расшырэнне НАТО на ўсход і Беларусь зноў аказваецца ў пазіцыі буфера. Ужо ў гісторыі мы не раз ад гэтага цярпелі. Калі Беларусь рашыла заснаваць садружнасць з Расіяй, што ў тым дрэннага? У нас уся эканоміка арыентавана на Расію. Наша рэспубліка была зборачным цэхам усяго Савецкага Саюза. У Беларусі высокі інтэлектуальны патэнцыял народа і таму размешчаны ў нас буйныя прадпрыемствы ці такія галіны прамысловасці як электроніка. Развалілася Саюз і гэта адбілася на развіцці нашае краіны. Я не разумею, чаму тое, што Беларусь ідзе да адраджэння супольнага рынку, выклікае адмоўную рэакцыю заходніх краін. Калі Польшча ідзе ў Еўрасаюз, ніхто гэтага не асуджае. Калі Беларусь крыху прытулілася да Расіі, каб супольна рашаць многія пытанні, асабліва ў галіне культуры, адукацыі, эканомікі, чамусьці ўсіх гэта непакоіць. Але ж сваіх намераў не скрываем. Беларусь адкрыта на супрацоўніцтва з усімі краінамі. Мы і з Польшчай развіваем добрыя адносіны. Я ганаруся тым, што ў нас 500 сумесных прадпрыемстваў, тавараабарот у мінулым годзе атрымаўся амаль у паўмільярда долараў. І гэта трэба двоіць, троіць, гэта ж наш самы блізкі сусед.

*— Вы галоўны націск ставіце на эканамічныя адносіны?*

(працяг на стар. 4)

## Інфармаваць і шукаць падтрымку

**Размова з лідэрам БНФ Зянонам ПАЗЬНЯКОМ.**

*— Якая мэта Вашай паездкі па краінах цэнтральна-ўсходняй Еўропы?*

— Гэта ж не паездка, а ўжо прымусовая эміграцыя. У краіне існуе фашысцкі рэжым, палітычныя праследаванні людзей, растаптаны правы чалавека, ёсць ахвяры, ёсць палітычныя вязні і няма ніякіх дэмакратычных свабодаў. Не дзейнічаюць ніякія законы, ніякая канстытуцыя. У нас, практычна, рэжым лацінаамерыканскага тыпу. У гэтай сітуацыі барацьба апазіцыі ў метраполіі павінна падмацоўвацца эфектыўнай замежнай палітыкай, бо, калі рэжым будзе ўзмацняцца, ён проста фізічна знішчыць апазіцыю. Так рабіў Гітлер, так рабілі ўсе астатнія дыктатары. Таму неабходная падтрымка палітычных эліт, уздзеянне на Расею. Не на Лукашэнку, а на Расею, бо сёння на Беларусі — гэта расейская палітыка.

Пасля першай дэманстрацыі рэжым паставіў задачу мяне проста фізічна знішчыць, але ім гэта не ўдалося. Я ведаю некаторыя іхныя планы наперад. Калі яны рашылі мяне схапіць, пару дзён сачылі, акружылі аўтаматчыкамі квартал, думалі, што я не буду прымаць ніякіх крокаў. Для іх гэта было нечакана, што я выехаў, зрабіў турнэ па трох краінах, высветліўшы ўсю іхнюю подласць. Яны цярпелі дзесьці тыдні два ці тры, а потым не вытрымалі і разрадзіліся нотай. А потым, нечакана для іх, я вярнуўся на мітынг 26 красавіка.

Цяпер гэта працяг тае місіі, якая была пачатая ў канцы сакавіка. Яна працягнецца па заходнееўрапейскіх краінах.

*— Часта даводзіцца ў Польшчы чуць, што падзеі ў Беларусі — гэта ўнутраныя праблемы суседа. Беларусь хоча аб'яднаўвацца з Расеяй, дык калі ласка. З якімі рэакцыямі палякаў Вы сустракаецеся?*

— Гэта рэакцыя сацыялістычнай, левай часткі грамадства. Людзі, якія не ўспрымаюць камунізм, стаяць на нармальных пазіцыях: дэмакратыі, нацыянальнай дзяржавы. Яны разумеюць сітуацыю ў Беларусі.

Канешне, афіцыйныя адносіны будуць дыктавацца той палітычнай сілай, якая мае ўладу.

*— Вось менавіта, якія ў Вас кантакты з кіраўніцтвам польскай дзяржавы?*

— Я, як чалавек, які прыехаў у нейкую краіну, з поўнай пашанай стаўлюся да яе законаў. Яшчэ ў Вроцлаве я напісаў ліст прэзідэнту Кваснеўскаму, дзе выказаў свае жаданні сустрэцца. Мне ў сустрэчы адмовілі. Відаць, у Кваснеўскага ёсць нейкія на гэта прычыны, можа яму нязручна, а можа яшчэ што. Цяпер быў тэлефон з бюро кіраўніка прэзідэнцкай канцылярыі Марка Сіўца з просьбай спаткацца з ім. Канешне, я не магу адмаўляць чалавеку, які хоча са мной спаткацца, хаця мне ён незнаёмы.

(працяг на стар. 4)

# Мы прачыталі

*W Polsce niewiele dziedzin życia gospodarczego rozwija się tak prężnie, jak usługi seksualne, nazywane elegancko sex service. W samej Warszawie działa około 500 agencji towarzyskich. „Słodka blondyneczka, masująca biustem" coraz częściej jest władająca obcymi językami, telefonem komórkowym i komputerem. Wśród pań „spod czerwonej latarni" można spotkać bogobojne gospodynie domowe, zarabiające na spłatę kredytu samochodowego, czy studentki, które zbierają pieniądze na wakacje. O tym, jak rentowny jest to biznes, nikogo przekonywać nie trzeba. Za godzinę z długonogą, namiętną dziewczyną trzeba zapłacić minimum 100 zł. Noc z profesjonalistką, która oprócz klasycznych usług może spełnić bardziej oryginalne życzenia klienta, kosztuje 800 zł. Za towarzystwo luksusowej call girl oraz ekskluzywną oprawę (apartament, szampan, kawior) panowie płacą od 1000 dolarów w górę. Zdaniem socjologów próby zalegalizowania domów publicznych spowodowałyby falę protestów z natury mało tolerancyjnych Polaków. Seks w Polsce jest jednak towarem bardzo pożądanym, o czym świadczy rozwój różnych agencji towarzyskich.*

*Wprost, nr 19*

* * *

*2 красавіка 1996 году пад націскам варожых сілаў пала Рэспубліка Беларусь. І хоць расейскія танкавыя калёны не ўвараваліся ў сталіцу краіны, але юрыдычна ўсе прыкметы акупацыі навідавоку. Актыўнасць мясцовых калябарантаў толькі падкрэслівае спецыфіку акупацыі.*

*Наша ніва, н-р 5*

* * *

*Як маладыя маюць стаць беларусамі? Што? Disco polo або Маланка? Гэта „цяпло клюхы" і добрае кацапам... А ў „Ніве" што пішуць? Ну нібы ўсё добра... Але чаму? Бо мы свае хлопцы і ў нічым ім яшчэ не „паднадзі"? Мы маем свой гонар і аспірацыі, а яны пра гармонік... У „Ніве" хай лепш пішуць пра Музей! —* запісаў роздумы Крыстафора Сяськевіча, вакаліста групы „Кардон" вакаліст групы „Брага" Юры Асеннік і змясціў іх у штомесячніку

*Czasopis, nr 5*

Tak trzymać!

* * *

*Wszyscy jesteśmy Polakami — powiedziała przewodnicząca Rosyjskiego Stowarzyszenia Kulturalno-Oświatowego w Białymstoku Halina Romańczuk. Włodzimierz Jakimiuk ze Związku Ukraińców Podlasia zaznaczył, że świadomość narodowa mniejszości w Polsce zaczęła rodzić się dopiero pod koniec lat osiemdziesiątych. Politycy wmówili nam, że jesteśmy Białorusinami. Obecny na spotkaniu pełnomocnik wojewody białostockiego do spraw mniejszości stwierdził, że w Białymstoku powinna być wspólna impreza dla wszystkich mniejszości narodowych i etnicznych zamieszkujących nasze tereny.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 110*

Рускія, якія з'яўляюцца палякамі, украінцы — ахвяры брутальнай беларусізацыі Беласточчыны ў апошніх двух стагоддзях і прадстаўнікі дзяржаўнай адміністрацыі разважалі ў Ваяводскім доме культуры пра праблемы міжэтнічнай талерантнасці на Беласточчыне. Вядома, што найбольш неталерантнымі з'яўляюцца тут „беларускія нацыяналісты", а асабліва — як сказаў тутэйшы ўкраінец Якімчук — беларуская прэса. Арганізатары сустрэчы не падумалі пра запрашэнне лекара.

* * *

*Więzienia coraz bardziej przypominają dziś ośrodki wypoczynkowe, zaś szaremu obywatelowi pozostał jedynie strach i nikła nadzieja, że bandyta nie wpadnie akurat na niego.*

*Najwyższy Czas, nr 15*

* * *

*Jak wszawica szerzy się dziś w języku publicznym słowo przemoc. W telewizji można było zobaczyć dyskusję o rozprzestrzenianiu się przemocy. Lada dzień, otwierając telewizor czy gazetę, dowiemy się o siedmiolatku, który rozbroił policjanta, czy ośmiolatku, który zgwałcił i zamordował żołnierza.*

*Polityka, nr 18*

* * *

*Produkowane w Polsce prezerwatywy są europejskich rozmiarów 52 mm średnicy i 17-19 cm długości. Oprócz tego istnieje rozmiar afrykański (54 mm i 19 cm) i azjatycki (46 mm na 16 cm). Popularnością cieszą się w Polsce prezerwatywy smakowe — bananowe, poziomkowe i malinowe oraz szwedzkie anatomicznie modyfikowane z różnymi pierścieniami, wybrzuszeniami, wypustkami, brodawkami.*

*Kurier Poranny, nr 109*

Размеры прэзерватываў паказваюць, што ўсё-такі жывем у Еўропе.

* * *

*Беларусь страна хорошая — заяўляе прэзідэнцкая*

*„Народная газета", н-р 117*

Ніхто ў гэты не сумняваецца.

# З мінулага тыдня

**Лідэр БНФ Зянон Пазьняк**, які знаходзіцца ў Варшаве, накіраваў ліст прэзідэнту **Аляксандру Кваснеўскаму**. „Прашу асабіста Пана Прэзідэнта звярнуцца непасрэдна да Лукашэнкі з прапановай вызваліць **Вячаслава Сіўчыка і Юрыя Хадыку** дзеля выратавання іхняга жыцця. Добры ўчынак, накіраваны на дапамогу бліжняму, не ёсць умяшаннем ва ўнутраныя справы іншай краіны", — гаворыцца ў лісце. Зянон Пазьняк і **Сяргей Навумчык** наведалі ў Варшаве пасольствы ЗША і Расеі, дзе пакінулі падобныя лісты прэзідэнтам гэтых краін. Лідэры БНФ спаткаліся таксама з кіраўніцтвам прафсаюза „Салідарнасць". Старшыня „Салідарнасці" **Мар'ян Кшаклеўскі**, які нядаўна быў дэпартаваны з Менска, звярнуўся з лістом да прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі** з патрабаваннем неадкладнага вызвалення Хадыкі і Сіўчыка. „Ігнараванне элементарных правоў чалавека — гэта вяртанне да таталітарызму і супярэчыць інтарэсам народа Беларусі", — падкрэсліў лідэр „Салідарнасці".

**Марэк Сівец** — міністр у Канцылярыі Прэзідэнта, сустрэўся з Зянонам Пазьняком і паінфармаваў яго, што прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі** будзе інтэрвеніраваць у справе вызвалення беларускіх палітычных вязняў. „Рашэнне будзе вельмі хуткае, бо гэта вельмі сур'ёзная справа — жыццё чалавека апынулася пад пагрозай", — заявіў міністр.

**Лідэры БНФ** арганізавалі ў Варшаве прэс-канферэнцыю, у якой прыняло ўдзел больш за 50 польскіх і замежных журналістаў. Распавёўшы пра дзеянні ў абарону Хадыкі і Сіўчыка, звярнулі яны ўвагу на арышт паэта **Славаміра Адамовіча** і віцэ-прэзідэнта Партыі аматараў піва **Андрэя Рамашэўскага**. Кіраўнікі БНФ заявілі, што гібель **Даніла Скунса** расцэньваюць як палітычнае забойства. Мянчук Даніла Скунс удзельнічаў у „Чарнобыльскім шляху" і знік. Потым быў ён знойдзены мёртвы, са шматлікімі траўмамі. Паводле версіі пракуратуры, Скунс скончыў самагубствам.

**Чэслаў Мілаш** — паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, праз беларускае пасольства ў Варшаве накіраваў ліст прэзідэнту РБ Аляксандру Лукашэнку, у якім выказаў заклапочанасць станам здароўя Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка.

**Іван Антановіч** — віцэ-міністр замежных спраў Беларусі на прэс-канферэнцыі ў пасольстве РБ у Варшаве выказаў шкадаванне з прычыны дэпартацыі з Беларусі дэлегацыі прафсаюза „Салідарнасць". Растлумачыў ён таксама, што дэлегацыя прыехала ў Беларусь па запрашэнню нелегальнага свабоднага прафсаюза і не мела права на публічныя выступленні.

Гаспадарчы суд у Белай-Падляшскай адмяніў рашэнне аб спыненні вытворчасці ў **Крэйдавым прадпрыемстве ў Мельніку** ў сувязі з яго ліквідацыяй. Завод адновіць прадукцыю на тэрмін ад 20 мая да канца ліпеня. Да гэтага часу прадпрыемства будзе прададзена новаму ўладальніку.

**На праваслаўных могілках** у беластоцкім квартале Дайліды невядомыя злачынцы вырвалі шэсць надмагільных крыжоў з таблічкамі. Паліцыя мяркуе, што гэты акт вандалізму ўчынілі непаўналетнія.

**На двух жыхароў Ваўкавыска**, якія начавалі ў сваёй машыне каля базару ў Кнышыне, позняй ноччу напалі чатыры ўзброеныя юнакі. Грамадзяне Беларусі абараніліся ад захопнікаў, уцяклі з горада і толькі раніцай з'явіліся на пастарунак паліцыі. У той самы дзень паліцыя затрымала ўсіх злачынцаў, якімі аказаліся жыхары Кнышына і гміны Ясяноўка.

# Весткі з Беларусі

**Чарговая дэманстрацыя**

14 мая ў Менску адбылася акцыя пратэсту супраць зняволення актывістаў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. Людзі прыйшлі на заклік лістовак, якія з'явіліся напярэдадні ў сталіцы Беларусі. Дзве тысячы дэманстрантаў з-пад рэзідэнцыі прэзідэнта прайшлі па тратуарах праспекта Скарыны ў бок плошчы Незалежнасці. Калону ўзначальвалі маладыя людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі, якія спявалі гімн „Пагоня". Каля следчага ізалятара, дзе ўтрымліваліся Хадыка і Сіўчык, адбыўся мітынг. Сур'ёзных інцыдэнтаў і сутыкненняў маніфестантаў з міліцыяй не адзначана.

**Падтрымка парламентарыяў**

У Вярхоўным Савеце праводзіўся збор подпісаў у падтрымку Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. Член фракцыі „Грамадзянскае дзеянне" Людміла Гразнова на сесіі адзначыла: „Вярхоўны Савет павінен паказаць, што ён мае свой голас і з'яўляецца абаронцам правоў чалавека". Яна прапанавала дабіцца вызвалення Хадыкі і Сіўчыка са следчага ізалятара, стан здароўя якіх выклікае сур'ёзныя апасенні.

**Вызваленне палітвязняў**

17 мая, пасля трох тыдняў галадоўкі, Вячаслаў Сіўчык быў вызвалены з турмы па стану здароўя. Некалькі дзён пазней быў адпушчаны з арышту Юры Хадыка. Аб яго планаваным вызваленні загадзя паінфармаваў віцэ-міністр замежных спраў Іван Антановіч на прэс-канферэнцыі ў пасольстве РБ у Варшаве.

**Абурэнне пасля выдварэння**

Пасля інцыдэнту ад 14 мая, звязанага з дэпартацыяй дэлегацыі прафсаюза „Салідарнасць", Міністэрства замежных спраў заявіла, што „заклікі польскіх грамадзян да арганізацыі супрацьдзеяння законнай уладзе РБ расцэньвае як процізаконную, правакацыйную акцыю, якая наносіць урон традыцыйным сяброўскім адносінам паміж нашымі дзяржавамі". Часовому паверанаму ў справах Рэспублікі Польшча ў РБ спадару Марку Зюлкоўскаму ў МЗС Беларусі была ўручана нота, у якой выказваецца „абурэнне беларускага боку недапушчальнымі спробамі ўмяшання ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы".

**Пратэст афіцыйных прафсаюзаў**

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык накіраваў прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку пісьмо ў справе арышту і наступнай дэпартацыі з Беларусі дэлегацыі польскага прафсаюза „Салідарнасць". „Затрыманне і высылка членаў дэлегацыі з Беларусі расцэньваюцца нацыянальнымі прафцэнтрамі і міжнароднымі прафаб'яднаннямі як грубае парушэнне прафсаюзных правоў і свабод", — гаворыцца ў лісце. Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі выказала пратэст з нагоды падобных дзеянняў улад і лічыць, што вінаватыя павінны быць прыцягнены да адказнасці.

**Супердырэктар**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведаў Менскае вытворчае аб'яднанне „Гарызонт". Падставай для візіту стала цяжкае вытворчае і фінансавае становішча гэтага буйнога завода ў апошнія гады. Прэзідэнт высвятляў прычыны крызісу ў прадпрыемстве, сустрэўся з працоўным калектывам і правёў нараду з прадстаўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, у выніку чаго ўвёў прамое прэзідэнцкае ўпраўленне „Гарызонтам".

**Наша бардэса**

У Доме літаратара ў Менску адбылася творчая вечарына паэта-барда Андрэя Мельнікава пад назвай „Камяні майго вогнішча", у якой прынялі ўдзел барды з усёй рэспублікі, а менавіта Лера Сом, Зміцер Бартосік, Віктар Шалкевіч, **Марыя Аліфер (яна родам з Беласточчыны)** і іншыя.

**Слёзы Сталіна**

Фестываль міжнародных выставак „Гастраномія — салодкая, горкая" адбыўся ў Менскім палацы чыгуначнікаў. У ім прымала ўдзел 120 фірм з Чэхіі, Славакіі, Нямеччыны, Польшчы, Індыі, Кітая, Украіны, Расеі і Беларусі. Гурманам і спецыялістам фестываль прапанаваў найноўшыя тэхналогіі прыгатавання кансерваў з гароднiны і мяса, сакрэты піваварэння і вырабу ласункаў. Чэшскі завод Мікуловіцы прывёз у Менск свой арыгінальны прадукт — гарэлку з назвай „Слёзы Сталіна". Усе гастранамічныя далікатэсы прапанаваліся ў аптовым і рознічным продажы на выстаўцы.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Сакрату Яновічу надаелі размовы пра палітыку.**
- **Запіскі нацыянальнага дзеяча — з дзённікаў Міхася Андрасюка.**
- **Інтэрв'ю Ады Чачугі з архіепіскапам Савам.**

# КПН падтрымлівае

15 мая, у 18 гадзін ля Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве Канфедэрацыя незалежнай Польшчы сарганізавала пікет. На вуліцы Атэньскай сабраліся некалькі дзесяткаў пратэстантаў і амаль столькі журналістаў. Прысутныя трымалі транспаранты паасобных варшаўскіх аддзелаў КПН і бел-чырвона-белыя сцягі. Вылучаўся перакладчык беларускай літаратуры Чэслаў Сэнюх, які трымаў запісаны з двух бакоў стэнд. На адным баку была парафраза Коласа:

*Мой родны кут, чаму мой мілы*
*Свабодным быць не маеш сілы?*

і лозунг *Жыве Беларусь!* На другім — *Wolność dla Chadyki i Siwczyka.*

Вядучы мітынг Тамаш Шчапанскі казаў: *Тое, што праходзіць цяпер у Беларусі, гэта адыход ад Еўропы ўбок Азіі. Наш польскі інтарэс у тым, што лепш суседаваць з нармальнай краінай, чымсьці з імперыяй.*

Кшыштаф Круль заклікаў не ўспрымаць таго, што адбываецца ў Беларусі, як яе ўнутраную справу: *Нам таксама такое гаварылі пры Ярузельскім. Калі мы сядзелі ў турмах, за намі таксама заступаліся парламентарыі дэмакратычных краін.* Далей гаварыў ён, што Беларусь не так русіфікаваная, як аб гэтым чуем. Беларусы сваімі сімваламі лічаць Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, а не той, што відаць над пасольствам.

У пікеце прымалі ўдзел таксама беларускія студэнты з Беларусі і Беласточчыны.

Мітынг быў ужо распушчаны, калі прыбылі Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык. Тыя, хто яшчэ не разышоўся, нанава развінулі сцягі і ўскрыкнулі: *Жыве Беларусь!*

Пазьняк падзякаваў сабраўшымся за падтрымку. **М. В.**

# Юбілей Сабора

У гэтым годзе беластоцкаму Сабору Св. Мікалая споўнілася 150 гадоў. Урачыстасці святкавання юбілею праходзілі 20 мая.

Пачаліся яны святлой літургіяй а 8 гадзіне, у завяршэнні якой была высвячана мемарыяльная дошка з надпісам на старажытнацаркоўнаславянскай і польскай мовах: „На памятку 150-годдзя Свята-Мікалаеўскага сабора". Ля мемарыяльнай дошкі Сабору Св. Мікалая і яго прыхаджанам Сінодам епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы быў прысвоены ордэн Марыі Магдаліны I ступені. Святкаванне, трэба гэта адзначыць, праходзіла ў строгім рэжыме часу, таму ўрачыстых і працяглых прамоў ля мемарыяльнай дошкі не атрымалася. Пажаданні, віншавальныя лісты і юбілейныя прамовы мелі месца ва ўступе да канферэнцыі, якая адбылася ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку а 11 гадзіне. Дастойных гасцей было мноства: Вроцлаўскі і Шчэцінскі епіскап Іерамія, Люблінскі і Холмскі епіскап Авель, епіскап Павел з Ніцы (Францыя), прадстаўнікі пасольстваў Беларусі, Расіі, Украіны і Грэцыі, прэзідэнт Беластока і беластоцкі ваявода, рэктар Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі, прадстаўнікі Управы Рады Міністраў, паслы ў Сейм, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый (у іх ліку БГКТ), прадстаўнікі ваяводскай камендатуры паліцыі, вайскоўцы, святары і свецкая паства.

Навуковую частку канферэнцыі склалі тры даклады: „Праваслаўныя прыходы ў Беластоку" Антона Міравіча, „Нарыс гісторыі кафедральнага прыхода" а. Анатоля Лаўрашука і „Архітэктура сабора Св. Мікалая" інж. Ежы Усціновіча. У актуальны момант на тэрыторыі Беластока існуе дзесяць праваслаўных прыходаў, цэнтральнае месца сярод якіх займае сабор Св. Мікалая. Адгэтуль інспіраваўся рост новых прыходаў і пабудова новых храмаў у Беластоку. Сабор Св. Мікалая з'яўляецца ў наш час цэнтрам і арганізатарам царкоўна-грамадскага жыцця праваслаўнай грамады ў Беластоку. Яго пабудова пачалася ў 1843 годзе ў месцы драўлянай святыні з XVI стагоддзя, а завяршылася ў 1846, калі новы храм быў высвячаны літоўскім і віленскім мітрапалітам Язэпам Сямашкам. Архітэктурны стыль сабора акрэсліваецца як неакласічны. Яго архітэктар і будаўнічы невядомыя, але аналіз архітэктуры святыні, параўнанне яе з храмамі ўзведзенымі ў той жа час, паводле Е. Усціновіча, даказваюць вялікага майстэрства як архітэктара, так і будаўнікоў. **(ам)**

# Пушчанскія паштоўкі

У палове мая г.г. у продажы паявілася восем новых белавежскіх паштовак — усе яны аўтарства Войцеха Рынажэўскага з Гайнаўкі (зараз жыхара Сувалкаў). Прозвішча гэтае нашым чытачам не чужое, таму што здымкі згаданага фатографа неаднойчы змяшчаліся ў „Ніве".

Шэсць з названых паштовак заказаў Аддзел ПТТК у Белавежы. Асноўнай іх тэмай з'яўляюцца зубры — у асенні і зімовы перыяды, і сама Белавежская пушча — таксама ў розныя поры года. На двух паштоўках паказаны яшчэ гасцінічны дом ПТТК — звонку і ўнутры.

Дзве апошнія паштоўкі заказалі белавежскі праваслаўны прыход і Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы. Яны, вядома, прадстаўляюць мясцовыя храмы. На ўсіх паштоўках змешчаны інфармацыйныя надпісы.

Серыю паштовак надрукавала фотастудыя „Оп-Арт" у Сувалках. Яны павінна карыстацца ў турыстаў вялікім поспехам з-за сваёй атракцыйнасці.

**Пётр БАЙКО**

# Пазваніць з вуліцы

Напярэдадні Сусветнага дня тэлекамунікацыі Белавежа атрымала прыемны падарунак. У мястэчку былі пастаўлены пяць таксафонаў — два вулічныя і тры ў публічных будынках. Першая знаходзіцца побач пошты ля ўваходу ў Палацовы парк, апошнія ў гасцініцы-рэстаране „Іва", рэстаране „Зуброўка" і інтэрнаце лясных школ. На жаль, мясцовыя хуліганы не занадта дацанілі гэткае аблягчэнне жыцця самім белавежцам, як і турыстам, ды ўжо на другі дзень папсавалі аўтаматы ля пошты. Праўда, яны былі зараз наладжаны, але ці надоўга?

**Пётр БАЙКО**

# Варта аб гэтым падумаць!

На чыгуначнай лініі Чаромха — Беласток у чатырох кіламетрах ад Бельска-Падляшскага знаходзіцца пасажырскі прыпынак Леўкі. Даўней працаваў тут дзяжурны станцыі, які адначасова прадаваў білеты. І хоць некалькі гадоў ужо мінула як па лініі Белавежа — Бельск-Падляшскі не курсіруюць цягнікі, дзяжурны яшчэ заставаўся працаваць. Зараз і яго забралі. Ліквідуюцца лініі, скарачаюцца і штаты. Ужо зараз год будзе як службовае памяшканне дзяжурнага станцыі ў Леўках забіта дошкамі. Прыпынак застаўся без нагляду.

Неаднойчы, едучы ў Беласток, наглядаю за пачакальняй у Леўках. Пабітыя шыбы ў вокнах, паламаныя дзверы. Толькі вецер гуляе бесперашкодна.

Аж верыць не хочацца, што такую гадасць можа зрабіць цывілізаваны чалавек. Ламаць грамадскую маёмасць! Гэта ж варварства! І што на гэта скажуць жыхары Левак і Раек, якія карыстаюцца гэтым прыпынкам? Няўжо ж яны абыякава адносяцца да народнай прымаўкі „Як нас бачаць, так аб нас пішуць?"

А мо гэта іншапланецяне прыляцелі і знішчылі прыпынак у Леўках?

Аднак, на маю думку, гэта справа рук мясцовых падлеткаў. Таму прапаную карыстальнікам прыпынку прывесці ў парадак сваю пачакальню ўжо зараз. Бо калі прыйдзе зіма, лепш будзе зайсці ў зацішны куточак і схавацца перад сцюжай, чым стаяць у падшытай ветрам пачакальні і скрыгатаць зубамі. Варта аб гэтым падумаць!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Нажом у айчыма

Пашчасцілася Касцюку. Яшчэ пры памяці быў, як прыгналася хуткая дапамога. Побач яго стаяў Жоржык З. Гэта ён „пачаставаў" Касцюка кухонным нажом. Хлопец насмешліва спазіраў на канаючага, на свайго айчыма. У руцэ яго віднела бутэлька піва „Złote Dojlidy".

— Хацеў пабачыць, што будзе далей, — успамінаў пазней гэты момант Жоржык З.

### Адзіны сведка

злачынства дакладна запамятаў толькі напіткі, якімі гэтага дня пахмяляўся. У яго крыві выявілі 3,2 праміля алкаголю.

Антон К., сабутэльнік ахвяры, піў з самага ранку. Найперш жлукціў *шпірт*. Сам з сабою. У сваёй хаце.

— У нас рускія шпірцікам элеганцкім гандлююць, — адзначыў ён нагоду шчарбатай усмешкай.

Антон К. нікому свету не завязаў, то і гуляе сабе даволі. Праўда, бацькі слабаватыя, пенсіянеры. Ды навошта яго на гаспадарцы пакінулі?

Пасля гэтага *шпірту* Антон К. забыўся пра свет божы. Зваліўся і спаў да абеду. А Касцюка сустрэў, калі пахмеле галаву разрывала. Касцюк таксама шукаў выпіўкі. Пазней лячыліся піўцом. За *склепам*. Пра што гаварылі? За што піва купілі? Забі, але Антон К. не памятае.

— А як Касцюк устаў і пайшоў, то я чакаў яго, што з півам вернецца, — сведчыў адзіны прысутны тады Антон К.

Аднак замест піва Антон К. пачуў адчайны крык свайго сабутэльніка.

— Калі я пабачыў Касцюка, было ўжо па ўсім. На запэцканым летніку сачылася кроў. Неўзабаве Касцюк упаў на зямлю.

— Ужо ўсё! — прахрыпеў ён, бачачы перапалоханага калегу.

### З жонкай добра жывем!

— Не ведаю, дзе стары начаваў тае ночы, — гаварыла маці Жоржыка, пяцідзесяцігадовая кабета. Часта Касцюка па людзях насіла, што і нанач не вяртаўся. Пэўна Жоржыка баяўся. Пабіў яе адвячоркам, як бульбу садзіць рыхтавала. Падбег і паленам у галаву ляснуў. Пабіў галаву, што да лекара на другі дзень паехала. Ужо не першы раз з-за такой хваробы ў Гайнаўку ездзіла. За здзек Касцюк нават у турме сядзеў. Як выйшаў, то старое вярнулася.

— І асабліва пасля *дзінатуры* дурэў. Як звер шалёны рабіўся, — наракала Марыя З.

З Касцюком жыла яна без шлюбу. Нарадзіла яму чатырох дзяцей. Зышлася з ім пасля смерці першага мужа. Супольна абраблялі 30-гектарную гаспадарку. Зараз палова зямлі ляжыць аблогам. Марыя З. і Касцюк жывуць у падзеленай судом хаце.

Касцюк задаваляны са свайго жыцця і „сужонства". .

— Раз лепш, раз горш у нас, як у сям'і сапраўднай! Я жонку біць ніколі і не думаў. Мая Маня два разы ад мяне дужэйшая. Не раз як залізе, то мяне пад ногі зграбе, быццам пярынку якую. А што ж мяне біць? Адны косці, і тыя старыя, хворыя! Адна бяда, што Жоржык не дае нам жыць. А як яго няма, то мы з жонкай вельмі добра жывем! А прыйдзе ён, то сварка адразу пачынаецца.

У Д., што непадалёк Чаромхі, ведаюць пра кожную сварку Касцюка і Жоржыка. Сваркі, праклёны і бойкі не зводзіліся з іхняга двара. Але ў Д., як у кожнай вёсцы, чужая бяда — чужое гора! Амаль у кожнай хаце чуваць лаянку і лямант.

### Ён беспрацоўны і нежанаты

Тут, як у многіх беларускіх вёсках, п'юць усе мужчыны. І Жоржык не адставаў ад кампаніі.

— Ды і што тут рабіць, — разважаў ён рытарычна.

Ён беспрацоўны і нежанаты. У вёсцы такіх як ён з сорак штук будзе. Дзяўчаты адно ў тэлевізары на паказ. І ў Д. нават *клюбу разрыўкі* няма. Усюды толькі лес, работа і процьма камароў.

І Жоржык часам адвядзе душу. Не ад роскашы, а з гора нап'ецца. Каб не ведаць як жыццё праміна́е, каб не думаць пра дзяўчат з тэлебачання, пра каханне, пра дзяцей, пра ўсё на свеце!

### Каб менш балела

Жоржык З. не любіць гаварыць пра сваё дзяцінства. Роднага бацьку амаль не памятае. Забіў яго гром, калі хлопцу было тры годзікі. Пазней з'явіўся Касцюк. Часта біў ён пасынка. Але найбольш балела, калі Касцюк біў маці. Ужо тады Жоржык хацеў быць дарослым і адпомсціць айчыму.

— Недзе год назад я падумаў, што яго заб'ю! — прызнаўся следчаму Жоржык З.— Бо што з такім чалавекам рабіць? Ні суды, ні бойкі, ні пагрозы на яго не дзейнічалі. Адно біў і біў маці маю няшчасную.

Калі Жоржык даведаўся, што Касцюк зноў пабіў маці паленам, рашыў забіць айчыма. Выпіў дзве бутэлькі піва і шклянку гарэлкі. Касцюка сустрэў ля крамы. Айчым хістаўся ад перапою. Жоржык нават узрадаваўся. Падумаў, што менш будзе Касцюку балець. Двойчы ўвапхнуў яму нож пад рэбры. І думаў, што калі прыедзе хуткая дапамога, Касцюк ужо будзе на тым свеце.

**Ева СЦЕПАНЮК**

# Інцыдэнты не пашкодзяць нашай дружбе

*(працяг са стар. 1)*

— Безумоўна. Мы павінны максімальна выкарыстаць патэнцыялы нашых краін, развіваць любыя кантакты, каб дапаўняць адзін аднаго. Карані дружбы між нашымі народамі далёка ў гісторыі, дык і цяпер трэба, каб нашы адносіны служылі на карысць нашых народаў. Я веру, што бягучыя інцыдэнты не зменяць нашых добрасуседскіх сувязей.

Я станоўча ацэньваю адобраныя прэзідэнтамі падыходы да стварэння еўрарэгіёнаў „Буг" і „Нёман", як і заснаванне свабодных эканамічных зон. Ужо ў Брэсце і Белай-Падляшскай пачынаюць такія функцыянаваць. Гэта першыя ластаўкі.

*— Я не памятаю ніводнай польска-беларускай сустрэчы, ні на ўрадавым узроўні, ні між прадпрымальнікамі, каб не было ў час яе гаворкі пра дзяржаўную мяжу. Тым не менш, нічога на ёй не мяняецца. Што трэба зрабіць і хто гэта можа зрабіць, каб урэшце былі там людскія ўмовы?*

— У апошні час прымаюцца меры. Узніклі новыя пераходы, але яны далей у два-тры разы перагружаны. Трэба палепшыць арганізацыю працы. Але ўсё разбіваецца аб дадатковы ўклад грошай, якіх у нас, ні, думаю, у Польшчы няма. Хаця, з другога боку, мы ведаем, што Польшча атрымала ад еўрапейскіх арганізацый, банкаў 59 мільёнаў долараў на мадэрнізацыю мяжы. А мяжу ж, папраўдзе, ахоўвае адна краіна. Тут трэба спалучаць намаганні, ды не толькі Польшчы і Беларусі — тавары нашых краін складаюць тут усяго трэцюю частку — але і Расіі, і Еўрасаюза, бо гэта супольная справа.

*— Чаму Беларусь больш не зацікаўлена ў тым, каб яе тавары ішлі праз марскі порт у Гданьску?*

— Грузапаток на Гданьск у нас сапраўды змяншаецца, гэта не сакрэт. Мы шукаем для нашых тавараў больш эканамічна выгаднай для нас дарогі, іншых марскіх партоў. Гэта, між іншым, сённяшні злашчасны калідор, які паркруцілі польскія сродкі масавай інфармацыі. Хаця Беларусь нічога не мае з гэтым нічога супольнага.

*— Ці ў сувязі з гэтым будзе закрыта Генеральнае консульства ў Гданьску?*

— Рашэнне аб яго адкрыцці прымалася не толькі з увагі на порт, хаця гэта была, відаць, галоўная прычына. Тут пражывае многа беларусаў-перасяленцаў, аб гэтым вы ведаеце. Там сфармавалася нацыянальная меншасць, як сёння кажуць. Трэба памагаць ім заставацца беларусамі на гэтай тэрыторыі. Можа ў іншым месцы консульства было б больш эфектыўнае, напрыклад у Познані — цэнтры міжнароднага гандлю. Але на сённяшні дзень гданьскае консульства апраўдвае сябе.

*— Ці збліжэнне з Расеяй не пагражае канчатковай русіфікацыяй Беларусі? Чаму над нацыянальнымі сімваламі правеўся ў Беларусі такі здзек, называюцца яны фашысцкімі, а ў той сам час Расея прымае сцяг, пад якім ваяваў Уласаў — і нічога?*

— Мы многа гаворым аб дэмакратыі, але калі большасць народа на рэферэндуме выказалася за новымі сімваламі і дзвюма мовамі, то калі б сення хто-небудзь з кіраўніцтва адмяніў гэта, я ўпэўнены, узаўтра падняліся б усе і сказалі, што гэта парушэнне дэмакратыі. Чаму, калі большасць народа выказалася за гэта, мы сёння дашукоўваемся нечага, каб даказаць, што гэта было няправільна зроблена? Калі народ выказаўся, значыць, усё, кропка. Не трэба кагосьці тут абвіняць.

*— Калі гаворым пра дэмакратыю, дык самыя выбары міжнародныя назіральнікі назвалі недэмакратычнымі.*

— Няпраўда. Наадварот, ёсць і заключэнне, што выбары былі дэмакратычныя. Ну, у чым былі яны недэмакратычныя?

*— Хаця б у тым, што апазіцыя не мела доступу да сродкаў масавай інфармацыі.*

— Чаму не мела? Усім дэпутатам былі запэўнены роўныя ўмовы. Я працаваў у Брэсцкай вобласці, да нас прыязджаў Пазьняк, выступаў у кожным раёне, мала гэта? А што тычыцца эфіру, было распісана колькі каму выступаць.

*— А паклёпніцкі фільм Азаронка, у якім Пазьняк паказваецца як гітлеравец?*

— Я гэтага фільму не глядзеў і не хачу пра яго выказвацца.

*— Давайце на канец пяройдзем да Вашай асобы. Скажыце, калі ласка, як Вы сталі дыпламатам.*

— Я, калі працаваў у Брэсцкай вобласці, многа энергіі аддаваў на тое, каб будаваць добрыя адносіны з палякамі. Мы вельмі добра супрацоўнічалі з Бела-Падляшскім, Люблінскім, Холмскім ваяводствамі. Я ведаю многа кіраўнікоў лакальнай польскай адміністрацыі. Думаю, таму, што ў мяне было больш за іншых кантактаў, адна з такіх моцных прычын, што мяне сюды дэлегавалі.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**

**БУРСКІ Віктар Іванавіч**
*Біяграфічная даведка*

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Магілёўскай вобласці. Беларус.

Адукацыя: вышэйшая.

У 1960 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (г. Горкі) па спецыяльнасці аграном.

1960 — 1973 — *Праца на пасадах у аграрпамысловым комплексе Беларусі.*

1973 — 1981 — *Праца на адміністрацыйных пасадах у партыйных і савецкіх органах Брэсцкай вобласці.*

1981 — 1987 — *Першы намеснік старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта.*

1987 — 1994 — *Старшыня Брэсцкага абласнога Савета народных дэпутатаў, старшыня Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта.*

з 1994 — *Старшыня Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў.*

Мае шэраг урадавых узнагарод.

Жанаты, мае двое дзяцей.

# Інфармаваць і шукаць падтрымку

*(працяг са стар. 1)*

*— У Польшчы распаўсюджаны вобраз Беларускага народнага фронту як нацыяналістаў, экстрэмістаў. Адкуль гэта ўзялося?*

— Тут усё вельмі проста. Калі такая інфармацыя паяўляецца, яна бярэцца з афіцыйнай рэжымнай прапаганды. Не мае значэння, як ты дзейнічаеш: калі ты супраць камуністаў, табе прышыюць усё: нацыяналізм, экстрэмізм і г.д. Гэта чыста прапагандыцкі тэзіс, узяты некрытычна або свядома — залежыць, хто пісаў — польскай прэсай.

*— Які наступны этап Вашай працы за мяжой?*

— Мы інфармуем пра тое, што праходзіць у Беларусі ды стараемся атрымаць палітычную і маральную падтрымку палітычных эліт. Гэта вельмі важнае. Трэцяя, больш канкрэтная задача: арганізаваць у еўрапейскіх краінах, асабліва ў Польшчы, беларускія інфармацыйныя асяродкі. Размова аб іх ішла паўсюдна і ўсюды была абяцана падтрымка. Найлепш, вядома, было б заснаваць такі асяродак у Варшаве, тут сталіца, пасольствы, прэсавыя агенцтвы. І мы ўжо за гэта бярэмся.

У нашай дзейнасці падтрымліваюць нас правыя палітычныя сілы ды такія арганізацыі як Хельсінскі камітэт. Яны высылаюць заявы з падтрымкай галадаючых палітвязняў у Беларусі, арганізуюць прэс-канферэнцыі, пікеты перад дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі Рэспублікі Беларусь. Так што падтрымка ёсць на тым узроўні, на якім польскія правыя могуць яе даць.

*— Чаму Вы так доўга адцягвалі прыезд на Беласточчыну?*

— Я прыехаў у Польшчу наладзіць адносіны з палітычнымі сіламі, якія нешта значаць у гэтай дзяржаве. Для мяне важнае, як яны нас прымуць, ці будзе разуменне, падтрымка. А што датычыцца Беласточчыны, дык і не сумняваюся, што там ёсць і разуменне, і падтрымка. Там жывуць блізкія, свае людзі і візіт туды адкладваўся на нейкі зручны момант.

*— Дзякуй за размову.*

Гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**

# Знаёмства Кшаклеўскага з Беларуссю

14 мая гэтага года беларускія праваахоўныя органы арыштавалі ў Менску старшыню Краёвай камісіі прафсаюза „Салідарнасць" **Мар'яна Кшаклеўскага**, які прабываў там са сваімі супрацоўнікамі па запрашэнню кіраўніцтва Свабодных прафсаюзаў Беларусі. Увесь інцыдэнт, як ведаем, закончыўся дэпартацыяй шэфа польскай „Салідарнасці" з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

„Вяртаючыся з Беларусі" М. Кшаклеўскі быў госцем беластоцкага рэгіёна „Салідарнасці" — адбылася тут прэс-канферэнцыя, у час якой старшыня Краёвай камісіі „Салідарнасці" знаёміў журналістаў з ходам яго візіту ў Беларусь.

— Складваецца ўражанне, — сказаў М. Кшаклеўскі, — што Беларуссю кіруе нейкая бліжэй не акрэсленая сіла мафіёзнага характару, якая не лічыцца ні з міжнароднымі прынцыпамі сужыцця, ні з грамадскай думкай. Усё гэта нагадвае сітуацыю ў Польшчы ў перыяд ваеннага становішча.

Пасля прэс-канферэнцыі адбылося шэсце з вуліцы Сураскай пад консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку, арганізаванае беластоцкім рэгіёнам „Салідарнасці". Прафсаюзныя дзеячы дамагаліся вызвалення арыштаваных кіраўнікоў Беларускага народнага фронту і свабоды для прафсаюзаў у Беларусі. Няма свабоды без свабодных прафсаюзаў! — заклікалі ўдзельнікі шэсця. Як кожнае шэсце, таксама і гэта мела свае спантанныя элементы, якія выявіліся ў традыцыйных заклiках „SLD — KGB" ды „Sowieci do domu".

15 мая ў консульстве Беларусі ў Беластоку была склікана прэс-канферэнцыя, на якой было прадстаўлена афіцыйнае становішча ўрада Беларусі ў сувязі з дэпартацыяй шэфа польскай „Салідарнасці". Прычынай затрымання і дэпартацыі польскіх прафсаюзных дзеячаў было парушэнне імі адміністрацыйнага кодэкса Беларусі, а ў прыватнасці — закона аб мітынгах. Візіт Кшаклеўскага, гаварылася ў заяве, нельга лічыць як афіцыйную дэлегацыю, бо юрыдычны статус Свабодных прафсаюзаў Беларусі, які запрашаў польскіх калегаў — нявызначаны, улады адмовілі яму ў перарэгістрацыі статута. Наконт дэманстрацыі, якая адбылася перад консульствам, генеральны консул Міхаіл Слямнёў заявіў, што была яна культурнай ды праведзенай згодна заходнееўрапейскім нормам.

Якімі не былі б прычыны і пазнейшыя тлумачэнні інцыдэнту ад 14 мая г.г. дыпламатычнымі службамі, але адна справа стала яснай — трэба было аж арышту польскага грамадзяніна, які ў сваёй краіне з'яўляецца публічнай асобай, каб Польшча пачала ўважліва прыглядацца і зрэагоўваць на тое, што адбываецца ў суседняй краіне. Правы чалавека і яго свабода не з'яўляюцца ўнутранай справай аніякай дзяржавы ў свеце. **(ам)**

# Мы хочам рэвалюцыі

19 мая польскае тэлебачанне паказала дакументальны фільм "Здравствуйте, здравствуйте, здравствуйте" пра першамайскую маніфестацыю камуністаў у Маскве. Дэманстранты крычалі: „Зюганов, Зюганов!..", „Рэволюции, рэволюции!..", „Зюганов — Квасневский", неслі партрэты Сталіна, Леніна і іншых апосталаў камунізму. На пытанне журналісткі, што, паводле дэманстрантаў, абазначае заклік да рэвалюцыі, малады чалавек без ніякага сумнення адказаў: „Трэба браць зброю і страляць буржуяў". Спяваліся малітоўныя песні да Сталіна, дзе паўтаралася пытанне сірот да памерлага бацькі: "Каму ты нас пакінуў?" Часта паўтаралася слова „здрада", кіраванае ў адрас Гарбачова і Ельцына. А здрадзілі яны не толькі камунізму, але таксама Савецкаму Саюзу. Даволі сумнае ўражанне выклікала дваццацігадовая дзяўчына, якая заявіла, што апрача партыі (камуністычнай) яна нікога на свеце не мае. Часта паўтаралася слова „фашызм", якім камуністы ахарактарызоўвалі сваіх канкурэнтаў, хаця самі выказвалі вельмі блізкія нацыстам думкі. Савецкія канцлагеры — гэта выдумка ворагаў камунізму, а сталінскія рэпрэсіі былі зусім абгрунтаваныя — бессаромна заяўлялі раз'юшаныя маскоўскія бальшавікі. Яны ўжо сёння гатовы адобрыць расстрэлы „ворагаў народа", „здраднікаў", „капіталістаў" і „ўсялякіх філосафаў".

Выкарыстоўваючы роспач людзей, якія апынуліся ў бязвыхаднай сітуацыі, да ўлады імкнуцца новыя групы палітычных крыцаў. У падобных псіхалагічных умовах, шляхам дэмакратычных выбараў, да ўлады прыйшлі Мусаліні, Гітлер і іншыя „ўсенароднаабраныя". Папярэднія расійскія камуністычныя эліты вокамгненна пераўтварыліся ў клас багацеяў. Лётаюць яны цяпер на прыватных самалётах, а іх катэджы кругласутачна пільнуюць дзесяткі ўзброеных ахоўнікаў. Тыя камуністычныя бюракраты, якія не паспелі захапіць месца ў радах новай улады ці ў магутных крымінальных структурах, выступаюць цяпер як абаронцы пакрыўджанага люду. Заклікаюць яны аддаць уладу працоўным масам, забраць буржуазіі (значыць, сваім былым партыйным калегам), награбленае багацце, прывярнуць Расію ў межы былога Савецкага Саюза. Імперыялістычныя лозунгі, як заўсёды, гучаць вельмі прывабна і знаходзяць прыхільнае зацікаўленне тых усіх, якія апрача гордасці ад магутнасці свае дзяржавы, ніколі нічога не мелі.

З камуністамі ішлі „праваслаўныя", якія рашуча заяўлялі, што бліжэй ім да чырвоных, чым да дэмакратаў. З камуністамі спалучае іх пачуццё апатыі да заходняга лібералізму, які ў апошніх гадах раптоўна ўварваўся ў межы Расіі. Дарэчы, тое самае спалучае камуністаў і католікаў у Польшчы.

Пасля некалькіх гадоў гульняў у дэмакратыю, вяртаецца ў сялянскай, посткамуністычнай Еўропе зацікаўленне таталітарнымі ідэямі і аўтарытарнымі спосабамі кіравання. Ліберальна-дэмакратычныя прынцыпы грамадска-палітычнага парадку не знайшлі падтрымкі тутэйшага насельніцтва. Найранней надаелі яны беларусам. Беларускі люд рашуча адкінуў дэмакратыю, пакуль яна яшчэ з'явілася на тэрыторыі Беларусі. Напрамкаў развіцця лукашызму, які ёсць мадэрнізаванай формай ленінізму, немагчыма прадбачыць. Але лозунг: „Квасневский — Зюганов" гучыць таксама прарочa. **Я. М.**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 437

Рэдактар: Сакрат Яновіч


**Міхась Андрасюк**

## Там

Там маці снуе доўгі вечар
у аксамітную стужку,
каб свет абняць, каб бяспечна
спаўняўся наш добры сон.

А бацька закінуў за плечы
прыпомненую частушку
і, падбадзёраны нечым,
пляшча далонь аб далонь.

І асвятляе дом на чаканне доўгае,
зноў на халодным шкле
трымцяць агні.
Цэлую ноч ліхтарык моргае
і дагарае ў цішыні.

А калі ўжо з нашых сцежак
збяруць апошнія цярні,
так, як збіраецца свежы
з ніў меданосных плён,
сыдуць у задыханы снежань,
адкуль ніхто іх не верне,
хіба што самі заглянуць
у наш неспакойны сон.

І асвятляе дом чаканне доўгае,
моўчкі спаўзе цень з чорнай гары.
Цэлую ноч ліхтарык моргае
і дагарае на зары.

**Міхась Шаховіч**

* * *

Усё нармальна
Нічога не змянілася
Гарэла свечка
Стаяла сям'я
Дзялілі ўсё
Чаго ў жыцці
Мне не хапала
Толькі сабака
Енчыў быццам я
А я ў покуце
Вунь там
Пад абразамі
У астылым целе
Бунтарыцца душа
Цяжка было
Калі
Былі мы з вамі
Яшчэ цяжэй
Калі
Вас тут няма
Свечка гарыць
І зла
Не дапускае
Ад жывых
Мярцвеццем
Цягне ў хату
Няважнае ўсё
Баліць
Што Беларусь мая
На лозунгах распята
Ад крыкуноў
І гарлапанаў
Вяне

**Алесь Чобат**

## Круча

Круча пад пушчай. На неба ўзыходзяць доўга.
Спачатку — хрысцім ад Рыма князя Міндоўга.
Потым за лепшыя месцы рэжамся, як адзін.
Потым на лепшы сук разбіткаў шле Гедымін.

Полацк выгнаў Скіргайлу. Ягайлу — Вітаўт шалёны.
Ягайла пабег аж у Кракаў — і нарабіў Ягелонаў.
Адна і другая Унія. Сорак войнаў на ўсе бакі.
Вялікае Княства Руінаў. Радзівілы і жабракі.

Нарэшце адваявалі. Адстралялі. Аджабравалі.
Нарэшце косткі абгрызлі, скінутыя са стала.
Час постіндустрыяльны. Гавары па-англійску, начальнік!
Наша дарога крутая на Неба не завяла.

## Крыжакі

Горка. Дзеці. Жыжа ляціць з-пад санак.
Побач ваенны завод — новы крыжацкі замак.
Ніжэй шырокая вуліца прабітая да ракі,
а ездзяць вуліцай гэтай у тралейбусах крыжакі.

Дзеці савецкай халявы. Ні племені, ані роду.
Наехалі на каўбасы з прамысловага Ўсходу.
Ленін з бронзы на плошчы — іх калектыўны партрэт.
Кажуць — сям'я галоўнае. Але ж мэта жыцця — абед.

Мэта жыцця абед і ў тутэйшых кнехтаў таксама.
Сядзіць па дурных інтэрнатах ачмурэлая вяскаўня.
Горка. Дзеці. Жоўтая жыжа ляціць з-пад санак.
Падрастае новая нацыя. Свет ёй надасць імя.

**Барыс Руско**

## Над крыніцай

Стужка вады ўпарта
абмотвае жывы корань.
Побач, быццам манашка,
прысела папараць.
І толькі птушка крыклівая
муціць настрой абуджэння.
Полымя сонца
памалу распальвае
да беласці зелень,
а ў цяні дрэў
маўчыць крыніца.
Аб вейкі
аціраецца
сакавітасць красак
і гасне ў ручайку
крыштальнае вады.
Пачалася
ранішняя лясная літургія.

**Сакрат Яновіч**

# Цывілізаванне Сакольскай

Маё з'яўленне на свет выклікала цывілізацыйны пераварот у нашым канцы Сакольскай вуліцы?

Жылі Яновічы-Антошкі дружынаю ў мінулавечнай хаце з хлявом, ля азярышчанскага выгана з глыбокім ровам ад палёў. Спакойна, калі памёр дзярлівы дзядуля Антошка, (яго ў карчме прыбілі гарэлчыныя сябры). Брат майго бацька ўдаўся зусім ціхіняю і жанілі яго два разы. Другою жонкаю ўперлася яму знароўленая паўінтэлігентка з мужчынскай ухваткаю, што за палякамі засядзелася без занятку з паперамі расейскае сястры міласэрнасці; падзарабляла абортамі. Прышываныя мяшчане тут далі бабе празыўку — Вонсы. Шляхецкую для смеху з камандзерскае старое дзеўкі з валосікамі пад носам.

Учынілася цесна не толькі таму, што я ўсё хварэў і надакучліва плакаў. Пасыпаліся дзеці ў Вонсы. Яна, не будучы зацюканай мужычкаю, падбала пра будучыню ім: потайна апланавала спаліць саламяную калноту Яновічаў. Каб пажар выпаў верагодна і выплацілі страхоўку, трымала язык за зубамі і падпільнавала, калі мая маці рашчыніла хлеб пячы. Заранёў павязаўшы сваё дабро ў вузлы.

Каб не суседзі, нашы не згледзелі б за работаю, што гараць. Пагодным днём страха ўжо добра палыхала над імі, ажно гудзела! Вонсы тым часам адна з усенькім паспела на аселіцу, выправіўшы свайго чалавека ранкам баразніць бульбу пад Александроўкаю. Першым прыбег на бяду буславаты Манах, але, нешта знюхаўшы, кінуўся назад і неўзаметку дым ахутаў і яго кучу. Ад рынку заеліся трубіць ды ламарэндзіць па бруку пажарнікі з помпаю і з бочкаю вады на калёсах; пекна камандваў імі Жоржык-Лялечка ў серабрыстай касцы. Да Манаха дагопаў жыватасты Булава з драбінаю і вядром, што жыў у парабкоўскай развалюсе каля сэрвітутаў, але яго пугнуў ён, як сабаку! Булава, пакуль здзівіўся, усё зразумеў; сакольшчанскія славіліся кемнасцю і сюды пайшла замуж нават жыдоўка, рабацяшчая Лейзаранка.

Пакруціла ў неба чарнотнаю хмараю, бухнула полымем, затраскацелі кроквы і ў Набіноса, і ў Карабельніка. Трапятаўся ад нерашучасці акулярысты Рухаймозг... Булава над сваімі галавешкамі здумаў крычаць нямым голасам, у якім і сам Госпад не дачуўся б фальшу; жонка з іконаю перад сабою бегала вакол агню. Жоржык-Лялечка запыніў сваю каманду ды разявіўся. Умомант абступіла яго местачковая галота, што назбягалася адусюль, і нагадвала гэта крыху евангельскіх рымлянаў, упалоханых нападам варвараў на правінцыйны *urbi* са жменькай легіянераў...

Паліцянты прыпазніліся. Адышоўшыся да кузні Мондрай Гловы, яны па-генеральску вытрэшчваліся ў бінοклі. Ад вірлівае гарачыні ўзняўся вецер, зашугалі вогненныя жмуты. Начаўплі гевалту крамнікі, гаманлівым кагалам абселі свае ханайкі, ратуючы ад запалу. Пажар не дакаціўся да Палесцінскай, пайшоў на спад.

Страхоўку давалі ў магістраце як каму: Яновічам цалкам, нам і Вонсы. Настала пара будавацца. У падлеснай Грыбоўшчыне прарок Гальяш распродваў свой горад Вершалін. Разагнаўшы шпаркім ядлаўцовым дубцом апосталаў, святы збываў завідлівыя хаты з шырознымі вокнамі, з падлогаю і пад чарапіцаю. Сакольцы абдурвалі яго з польскімі грашыма, на якіх не знаўся. Днямі і начамі перавозілі абозам перасыпаныя сцены, бэлькі. Кафлёвыя печкі. Трохі баючыся, каб ён часам не раздумаў. Шанц удаўся найперш Манаху, які ўмеў загаворваць зубы Святым Пісаннем.

Вонсы панатурылася ўставіць у сябе венецыянскія вокнішчы, рыхтык царскія, бы ў яе кнізе з малюнкамі князёў і княгінянак. Можа быць, так і зацясалі б, калі б майстры не скурылі тыя паперкі... Здарылася з імі яшчэ непрыемнасць: мандакавалі, каб не ставіць асобна хлявы, бо ў маразы цяплей начуецца з авечкамі, суха і мякка. Затое абсмяялі яны Булаву, які натапырыўся наваліць гліны на ўкладзеную яму падлогу (хацеў мець па-даўнейшаму). Сакольшчанскіх багатыроў закасаваў цяпер, аднак, Карабельнік, заказаўшы ўмясціць на гарышчы пакойчык з ваконцам. Летам жыцьму ў ім, тлумачыў. Карабельніку, як Карабельніку, не верылі і пляткавалі, што будзе мэнчыць там удовы, здаля ад вачэй хваравекае старое...

Падняў лямант недапечаны Франак-Анёл. Шалёнаму заманулася справядлівасці Гальяшу і кляў ашуканцаў. Абзвягаў Манаха, напляваў на бараду Булаве, парнуў кійком у пуп Набіносу, а Карабельніку намазаў глеем на дзвярах чорта з рагамі і голую Еву. Яновічаў ён не чапіў, нашых і Вонсы. Шанцоўнікі — урэшце — падкупілі лахмана залатоўкамі на імшу, і той даў ім слова замаліць перад Богам іх лайдацтвы.

Слаўна ўбудаваліся! Мой дзядзька ставіў фасонны плот, але яго Вонсы крывілася на штыхеты з вярхамі кшталтам бубны (не пераносіла карцёжнікаў). Настойвала на форме сэрцайка. Перарабляць аздобіны не хацелася яму, за што дастаў ад яе абрэзам па гарбе. Ён пасыкнуўся быў аддаць ёй аполкам, аднак жа паказала яна сябе школенай у паядынку. Раскірачыўшыся, бы крыжак пад Грунвальдам, выбівала з дзядзькавых рук усё, чым замахваўся. Ляскатлівая бравура не цягнулася доўга і, безабароннаму ўжо, уляпіла па шчацэ смачную аплявуху, усё роўна што нейкую прэмію. Маўклівы і задыханы заенчыў ён, што няхай той бык здохне, якога пабарола карова, і сапраўды прапаў у нямецкую неўзабаве вайну.

Балячкаю на азадку кожнаму муляла праблема нужнікаў. Бурмістр прымушаў збіваць з дошак тыя шпакоўні, лупіў штрафамі. Людзей брала злосць або рогат. Да тых, хто паслухаўся яго і змайстраваў гэту непатрэбшчыну, паўнаджваліся свінні, што пагржала ганебным калецтвам (асабліва мужчынам).

Заставалася тое, чаго не надта прагна ўяўлялі сабе на Сакольскай: мыцца па-панску. І хоць маянтковыя курвы займальна распавядалі на гэты конт ды, усё ж, чым дакладней тым менш было ў тубыльцаў ахвоты слухаць таго. Адзін Карабельнік захапіўся быў. Ванну ён, праўда, бачыў у бурмістра, але больш яна яму спадабалася як вадапойны жолаб каню і для быдла; сам не палез бы ў яе, быццам той угрэты кныр у лужу. Рухаймозг падказаў яму пачапіць на жэрдку поўнае вядро і — шнурком нахіляючы сабе яго над галавою — паласкацца ў жніўную спёку. Простая інжынерыя чыпела, пакуль не грымнула звысоку па чэрапе... Пра іншых гігіеністаў не чувалася.

Не адно ў натруджанасці жылі. На Багача абавязкова пылілі на прывыганні музыкі. Рэзаў на гармоні валачашчы Мазоль, у бубен грукацеў ягоны байстручок. А калі пры немцах народ распіўся самагонкаю, сенсацыйна буянілі на Валосію, ад якое пачынаўся вялікі пост. Мазалю было тады жніво: у каго зарабіў, у каго прыкраў, і такое бяды. Хадзіў ён з тым хлопчыкам трохі як калядоўшчыкі; яго пасцельныя анекдоты прыдавалі сексу манатоннай алкагольнасці і ўдзячныя за гэта гаспадыні не шкадавалі яму эратычна закругленых кілбас ці па-ратайску важкага акрайца сала.

Малалеткі не былі такімі еўнухаватымі, як цяперашнія. Гэта нічога, што не разумеў я клятых назваў геніталіяў, але нарачоную сабе назначыў. І як заўсёды ў сваю яшчэ няхуткую маладосць, бяздумна. Нашмат старэйшую і недаступна дзікую — аказалася пасля — згвалтаваную артылерыстамі-мазурамі, што акапаліся былі за будынкамі і падбівалі савецкія танкі ў жытах, якія ў тадышняе адступленне праставалі на Гродна...

Але занадта далёка я ўжо забег дапераду.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Юр'еўскі карагод у Беластоку

Вясновай парой людзі вяселяцца. Асабліва, калі на календары месяц май. Урэшце цвітуць кветкі, спяваюць птушкі, радасна свеціць сонца.

Нашы продкі вясной ладзілі карагоды. У песнях людзі выяўлялі сваё захапленне вясёлай парой, засакрэчаныя пажаданні і надзею.

12 мая г.г. у беларускім прадшколлі ў Беластоку адбылося цікавае мерапрыемства. Бацькі разам з дзеткамі паставілі п'есу „Юр'еўскі карагод".

Сцэнічнае афармленне залы ўзвышала атмасферу спектакля. У зале пахла свежым бэзам, бярэзінай і чаромхай. Усюды было поўна зялёных галінак і кветак. Бацькі апрануліся ў народнае адзенне.



*Разам з дзецьмі Ірэна Стэльмашук.*

Першымі на сцэну выйшлі Гаспадыня і Гаспадар. Гэтыя ролі ўмела ігралі Яўгенія Пятрышык і Алесь Максімюк. Варта адзначыць, што спадарыня Пятрышык была заадно і рэжысёрам пастаноўкі.

Пазней на сцэну ўвайшоў карагод. Сярод спевакоў былі не толькі мамы дзетак, але таты і многія дзеткі. Большасць песень была прысвечана св. Юр'ю — апекуну хатняй жывёлы і палёў. Дзецям вельмі спадабаліся старажытныя беларускія песні, а найбольш хіба песня пра Юр'я і яго дачушкі. Захапленне ўзбуджала добрая Вядзьмарка, якая напамінала пра ўсе юр'еўскія традыцыі. У ролі Вядзьмаркі выступіла Бася Пякарская, старшыня Бацькоўскага камітэта.

Многа радасці прынесла гульня ў ваўка і авечак. Ужо пасля першай рэпетыцыі дзеці праследавалі герояў гульні Пастушка і Ваўка. Пабачыўшы іх нават на вуліцы, крычалі: „О, воўк!" ці „О, пастушок!"

Дзякуючы супольнай гульні ў тэатр, дзеткі даведаліся пра традыцыі нашых продкаў. Пасля п'есы спявалі таксама песні, якіх навучыліся ў прадшколлі. Мне найбольш падабаліся танцы. Дашкольнікі з беларускага аддзела як ніхто, скачуць польку-бульбу.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*

*Вучнёўская творчасць*

### Дзіўны звер

Сабака, сабака,
гэта такі звер.
Ён вялікі,
або не.
Калі я вучуся дома,
сабака гаўкае і гаўкае,
а я яму кажу:
— Ціха будзь, я вучыцца
не магу. —
А ён далей сваё:
Гаў... гаў... гаў... —
Часам іду і бачу
на дарозе пяць сабак
стаяць і гаўкаюць,
што часам
трэба вушы затыкаць,
а часам ніводзін.
Сабака —
гэта проста дзіўны звер!

**Эмілька ФІЛІПОВІЧ**
**вучаніца VI кл. ПШ у Дубінах**

### Вясна

Ужо прыйшла да нас вясна,
Прыгожую сукенку мае яна.
Дрэвы лісця многа маюць,
Кветкі з садоў выглядаюць.
Буслы таксама прыляцелі,
У свае гнёзды паселі.
Сонейка моцна прыгравае
І сардэчна ўсіх вітае.

### Веснавыя хмурынкі

Спакойнае жыццё вядуць яны,
На іх сонейка спачывае.
Вольныя як птушкі
І як мы хуткія
Хмурынкі-вандроўнікі.
Аднойчы сядзела на іх вясна,
Кветкі з неба нам сыпала.
Жаўрук спяваў: — Зімы няма,
У зімовы край яна пайшла.

**Ева ПРАФІРУК, кл. V „а"**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"**

Аднойчы настаўніца сказала нам, што на наступным уроку мы пазнаёмімся з п'есай „Гуканне вясны на Беласточчыне". Я вельмі ўцешылася. Мае сябры, якія былі ў Бандарах, гаварылі нам аб гэтым творы. Мы ўжо тады ведалі некаторыя ролі.

На наступным уроку ўдастоіў нас сваёй прысутнасцю Дарафей Фёнік. Ён вучыў калектыў „Журавінка" спяваць розныя песні. Найбольш зацікавіла нас песня „Божа дай".

Наша настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч падзяліла п'есу на ролі. Я іграла Лісіцу. Я не магла паўстрымаць захаплення. У гэты самы дзень я вывучыла сваю ролю на памяць.

16 лютага, у суботу, мы выступалі на канферэнцыі фізікаў. Кожны вучань меў маску звяра, якога іграў. Калектыў „Журавінка" быў апрануты ў прыгожыя кашулі і чорныя спадніцы. Дзед трымаў кульбу. Бабуля мела фартух і хустку. Воўк дастаў аздобленыя прыгожымі ўзорамі валёнкі. На Пчолцы зіхацела доўгая, каляровая сукенка.

Мне найбольш падабалася выступленне Дзеда і Бабы. Калі яны выступалі, усе смяяліся.

Хачу, каб такія пастаноўкі былі часцей.

**Аня АЎСЕНЮК, кл. V „е"**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



*Хлопцы з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Вяселле нашых продкаў

***(працяг; пачатак у папярэднім нумары)***

Яшчэ тры тыдні да *заручын*, калі маладых назвуць *нарачонымі*, трэба было падаць на *запаведзі*. Дзеля гэтага маладыя ішлі святочна апранутыя ў царкву. За адпаведную аплату святар абвяшчаў сваім прыхаджанам што *такая дзяўчына* (імя і мясцовасць) і *такі хлопец* маюць намер жаніцца.

*Можа хто ведае ці паміж імі няма сваяцтва або іншых перашкод*, — абвяшчала на працягу трох тыдняў паўтараная святаром аб'ява. Такім чынам — кожны мог перашкодзіць у здзяйсненні шлюбу.

У выпадку, калі святару даносілі пра хлопца з дзяўчынай што-небудзь кепскае, запаведзі болей не чыталіся і вяселле распадалася. А калі на працягу трох тыдняў не было наконт маладых ніякіх нараканняў, святар абвяшчаў: *заручаны*. З таго дня маладыя насілі пярсцёнкі. Шлюбныя пярсцёнкі калісь рэдка куплялі. Найчасцей выплаўлялі іх з медных або сярэбраных манет.

Пасля багаслужбы маладыя ехалі да дзяўчыны. Часта па дарозе заязджалі ў краму. Хлопец купляў там сваёй будучай жонцы вясельны ўбор: матэрыю на сукенку, вэлюм, туфлі, чаравікі будучай цешчы. Дзяўчына купляла адзенне для будучага мужа. Пасля вяселля яна была абавязана апранаць яго з галавы да ног.

Апрача *пасагу* дзяўчына ўносіла ў новую хату *прыданае*. Складалі яго адзенні, саматканыя дываны, посцілкі, ручнікі, посуд. *Прыданае* лічылася асабістай, але і ганаровай справай кожнай дзяўчыны і яе маці.

Здаралася, што вяселле распадалася з-за віны дзяўчыны. У такіх выпадках гаварылі, што яна *адкінулася*. Тады яе бацькі мусілі вярнуць сватам грошы за выпітую гарэлку.

Бывала, што да адной дзяўчыны сваталася некалькіх кавалераў. Сярод іх найважнейшы быў першы засватаны. Калі дзяўчына рашалася выйсці за другога, ён быў абавязаны плаціць грошы першаму.

Пазней з адкінутага хлопца многія ў вёсцы смяяліся. Да яго сцяны прыбівалі *гарашыны вянок*. Гэты вянок быў матывам насмешлівых песень і вершаў з адкінутага хлопца.

***(працяг будзе)***

## У пані свае блохі

Жанчына лаецца ў трамваі:
— Забраць сабаку табе раю!
Чую на целе хвост сабачы,
А па нагах мне блохі скачуць.

І надта знерваваны Якаў
Ад пані адцягнуў сабаку:
— Адсунься ты ад пані трохі,
У гэтай пані свае блохі.

**Віктар ШВЕД**

# Лаўрэаты „Беларускай песні-96”

Спецыяльная ўзнагарода: эстрадны ансамбль „Пронару” з Нарвы.

У катэгорыі хораў:

I месца: хор „Пронару” з Нарвы,

III месца: хор з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

У катэгорыі вакальна-танцавальных калектываў:

I месца: „Душкі з пушкі” з Нараўкі,

II месца: „Журавінка” з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

У катэгорыі: малыя вакальныя групы:

I месца: тэрцэт Бася Кердалевіч, Аня Сарока і Аня Юрчук з Чаромхі, усе з II класа.

Класы IV—VIII:

I месца: дуэт Паўліна Місяюк і Аня Сухадола з Нараўкі,

III месца: дуэт Ірэна Семяновіч і Агнешка Зубрыцка з „Пронару” і тэрцэт Каміль Кулік, Марцін Купрыцюк, Павал Саевіч з Чаромхі.

У катэгорыі ансамбляў:

I месца: вакальны калектыў „Лісічкі” з Ласінкі і вакальны калектыў з Гарадка,

II месца: „Вясёлка” з Кленік

III месца: вакальны калектыў з Кляшчэляў.

У катэгорыі салістаў:

малодшыя 0—III класы:

I месца: Паўліна Пашко з Ласінкі,

II месцы: Карнеля Внук з Нараўкі і Анэта Яканюк з „Пронару” з Нарвы,

III месца: Міхаліна Барысевіч з Чаромхі.

Старэйшыя IV—VIII класы:

Гран-пры: Барбара Сегень з „Пронару” з Нарвы,

I месца: Аня Сухадола з Нараўкі,

II месца: Паўліна Місяюк з Нараўкі,

III месца: Аля Сегень з „Пронару” з Нарвы і Юліта Вэршка з ПШ н-р 3 з Бельска-Падляшскага.

Вылучэнне: Іаанна Врублеўская з ПШ н-р 6 у Гайнаўцы.

Запісала і фатаграфавала
**Аліна Ваўранюк**



*Музыканты з Нараўкі.*

# Ад крадзенага не пасыцееш

Былі ў аднаго чалавека два сыны. Як выраслі яны, бацька сказаў:

— Пара, сыны, за сталую работу брацца. Хто з вас чым хоча заняцца?

Маўчаць сыны — не ведаюць, якую сабе работу выбраць.

— Ну, дык пойдзем, — кажа бацька, — у свет, паходзім, паглядзім, што людзі робяць.

Сабраліся і пайшлі.

Ідуць так памаленьку, сыны да ўсяго прыглядаюцца, думаюць, якую работу ім выбраць.

Падышлі да адной вёскі. Бачаць — стаіць пры канцы вёскі кузня. Зайшлі яны ў кузню. Прывіталіся з кавалём, пагаварылі. Старэйшы сын нават молат у рукі ўзяў — памог кавалю нарог выкаваць.

І зноў далей рушылі.

Падышлі да другой вёскі. Старэйшы сын пагладзеў туды-сюды: не відаць кузні ў гэтай вёсцы. Вось ён і кажа да бацькі:

— А чаму б і тут кузню не паставіць? Я мог бы за каваля застацца. Мне гэта работа падабаецца.

Бацька зарадаваўся: знайшоў, думае, большы сын сабе спосаб да жыцця!

— Добра, — кажа, — будзь кавалём у гэтай вёсцы.

Паставіў ён сыну кузню, той і пачаў кавальскаю справаю займацца. Людзі яго хваляць, і сам ён сваёю работаю задаволены.

А меншы сын, колькі ні ходзіць, — ніяк не можа работу па густу выбраць.

Ідзе ён аднаго разу з бацькам каля лугу. Бачыць — пасецца на лузе вол. А вёска далекавата, і пастуха не відаць.

— Ці не пачаць мне, бацька, валоў красці? — кажа сын. — Работа гэта лёгкая, і кожны дзень з мясам буду. Растаўсцею і сам, як вол.

— Крадзі, — кажа бацька. — На тое ж я цябе і ваджу, каб ты сабе які сталы занятак выбраў.

Заняў сын вала і пагнаў дахаты. А бацька кажа:

— Пачакай мяне пры лесе — мне трэба яшчэ ў гэтую вёску заглянуць: там адзін мой знаёмы жыве...

Гоніць сын вала ды ўсё азіраецца, як воўк, ці не бяжыць хто за ім. Пакуль да лесу дагнаў, дык добра такі перадрыжаў. Аж млосна ад страху зрабілася.

Пачакаў ён на ўзлеску, пакуль бацька вярнуўся, і пагналі разам вала дахаты.

Зарэзалі дома вала, знялі шкуру ды пачалі варыць свежаніну.

Наварылі, бацька кажа сыну:

Вось што, сынку, давай знімем меркі і пагладзім, хто з нас ад гэтага вала пасыцее.

Узяў ён шнурок, змераў шыю сабе і сыну і завязаў вузельчыкі.

Селі за стол. Бацька есць спакойна, а сын усё на дзверы паглядае: ці не ідзе хто вала шукаць? Забрэша сабака, пройдзе ці праедзе хто — сын за мяса ды ў каморку хаваецца... А ў самога рукі і ногі дрыжаць.

І пайшло так дзень за днём.

З'елі нарэшце таго вала. Бацька кажа сыну:

— А цяпер давай шыі мераць: хто з нас пасыцеў?

Памералі, дык у бацькі шыя ўдвая патаўсцела, а ў сына ўдвая патанчэла.

Дзівіцца сын:

— Чаму гэта так?

— Бо ты еў крадзенага вала, — кажа бацька.

— Дык жа і ты крадзенага еў!

— Не, я заплаціў за вала гаспадару і еў, як свайго. Таму я і пасыцеў. А ты як сядзеш за стол, дык страх адразу на шыю скок і душыць! Праз гэта яна і худзее. Ад крадзенага, брат, не пасыцееш!

*(са зборніка „Беларускія народныя казкі”)*

# Усе песні нам падабаліся

10 мая гэтага года наш клас пайшоў у Бельскі дом культуры на Цэнтральны конкурс беларускай песні для школьнікаў. У конкурсе прымалі ўдзел дзеці з розных вёсак і гарадоў усходняй Беласточчыны. З нашай школы выступіў хор і ансамбль „Журавінка”.

Амаль усе песні нам падабаліся, але найбольш спадабалася песня пра чараўніцу ў выкананні Паўліны Місяюк са школы ў Нараўцы. Песня была вясёлая, а сяброўкі Паўліны вельмі цікава пры ёй танцавалі. Апрача таго нам падабалася песня „Літарынка” ў выкананні ансамбля „Душкі з пушкі”, таксама з Нараўкі.

Конкурс вельмі нам спадабаўся і мы хацелі б часцей слухаць вясёлых песень.

**Клас III „ц” ПШ № 3
у Бельску-Падляшскім**

# Крыжаванкі № 22

Запоўніце крыжаванкі. Лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі н-р 17:**

**Школьная крыжаванка:** красавік.

**Польска-беларуская крыжаванка:** вечар, чага, зуб, шал, дача, бяроза, меч, чаша, рагач, рала.

Узнагароды–аўтаручкі — атрымліваюць: **Ірэна Дрэўноўская** — ПШ у Новым Корніне, **Давід Сліўка** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Эмілія Сухадола** — ПШ у Нарве, **Янка Галёнка** — ПШ у Курашаве, **Агнешка Валкавыцкая** — ПШ у Нараўцы, **Іаанна Германовіч** — ПШ у Махнатым.

**Адказ на „Вясновыя загадкі” з 15-га н-ра:** час, вецер, хмара. Узнагароду — байкі Кандрата Крапівы — выйграла **Аня Саеўская** з Кленік.

**Віншуем!**

*(Апрацавалі Аля Трусевіч і Івона Артэмюк.)*

**Магічная польска-беларуская крыжаванка:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Grom | | | | |
| Ruda | | | | |
| Opamiętanie | | | | |
| Mama | | | | |




# Загадкі № 5

* * *

Я прыродны дрывасек,
Сёння зноў асінку ссек.
Пойдзе ўся кара на ежу,
Ствол на часткі я парэжу.
У раку насіць іх буду —
Пабудую з іх запруду.

* * *

Добра знае кожны з вас:
Рэкардсмен я ў стылі „брас”,
Але нешта медалі
Да мяне не дапльылі.

* * *

Вось загадка невялічка:
Ходзяць брацік і сястрычка.
Яна міргае штораз,
Брат грукоча у адказ.



Талон „Зоркі” № 22
2.06.1996

# І зноў бабы зрабілі вялікую справу

**Многія з тых, якія ехалі 19 мая г.г. у Нараўку, нават не ведалі, што будзе там фэстын, прысвечаны 130-годдзю гурткоў вясковых гаспадыняў. Яны ехалі на сустрэчу з прэм'ер-міністрам В. Цімашэвічам. Так ці інакш, у Нараўцы зрабілася вялікае свята. Міхась Панфілюк з Нараўкі (наш чытач ад 1956 года) занатаваў на паперцы, што толькі на пляцы каля цукерні стаяла: „12 аўтобусаў, 40 легкавушак і 5 большых машын".**

Мы запыталіся ў галоўнай арганізаторкі свята Марыі Садоўскай з Ваяводскага саюза сялянскіх гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый (пастаянна купляе „Ніву" на вуліцы Свабоднай у Беластоку), чаму менавіта Нараўку выбралі яны на месца такой вялікай урачыстасці. Па-першае, у Нараўцы ёсць умовы для арганізавання такога свята, сказала яна. Па-другое, нашу прапанову тут прынялі (і войт Мікалай Павільч, і Гмінная рада на чале з Яўгенам Валкавыцкім, і іншыя) з вялікай прыхільнасцю. Нам хацелася, каб людзі прачулі пра гэту гміну, каб убачылі яе харaство. Землі тут слабыя, але ёсць шанцы ў турызме.

І сапраўды, Нараўчанская гміна, а асабліва сама Нараўка ў сонечны, нядзельны дзень 19 мая з'явілася перад сабранымі людзьмі ва ўсёй сваёй красе. Усюды чысценька, акуратна, свежая зелень, людзі на вуліцы гавораць пабеларуску. Ёсць дзе выступіць калектывам: на свежым паветры ёсць нешта накшталт амфітэатра. Тут жа і рака Нараўка з падрыхтаваным дрэвам для вогнішчаў на беразе. Расстаўлены прылаўкі з вырабамі народных умельцаў.

Як тут прыгожа! — не могуць надзівіцца прыезджыя. Гэта ж імпрэза шасці ваяводстваў: не толькі Беластоцкага, але і Сувальскага, Ломжынскага, Сядлецкага, Астралэнцкага, Бела-Падляшскага. А да таго і госці з Кракава, Ольштына, Скернявіц... А з Варшавы колькі! Пэўна, такіх гасцей у Нараўцы яшчэ ніколі і не было. Сяляне з Нараўчанскай гміны вітаюць прэм'ер-міністра В. Цімашэвіча „з надзеяй, што разумее іх радасці і клопаты", віцэ-маршалка Сейма Аляксандра Малахоўскага, генеральнага консула Летувы Відмантаса Павілёніса, беластоцкага ваяводу Анджэя Гаеўскага, войтаў і бурмістраў, „якія штодзённа з намі ў нашых сельскагаспадарчых клопатах". Не можа, на жаль, прыбітаць беларускага генеральнага консула ў Беластоку Міхаіла Слямнёва ды надзвычайнага і паўнамоцнага пасла РБ Віктара Бурскага, якія моцна спазніліся, заблытаўшыся недзе ў беластоцкіх асфальтавых джунглях, і, замест у Нараўку, трапілі спачатку ў Ялоўку. Людзі ўжо нават пачалі хвалявацца, што здарылася.

На сцэне — уручэнне ўзнагарод дзяячкам гурткоў вясковых гаспадыняў, пасля ўсяго прамаўляе прэм'ер В. Цімашэвіч. Тады выступаюць самадзейныя калектывы не толькі з нашага рэгіёна, але і з усяе Польшчы. Зрабілі фурор экзатычны калектыў кракавякаў і цыганскі калектыў з Сувалкаў „Цыганскае жыццё". Кіруе ім Эдвард Пачкоўскі, ён жа і настаўнік у ромскай школе, дзе выкладае прадмет: культура цыганоў. У гэтай школе калектыў з дзесяці асоб праводзіць свае рэпетыцыі.

З беларускіх калектываў у Нараўцы былі: „Цаглінкі" з Ляўкова (там жа пражывае і Яўген Смольскі — адзін з актыўнейшых членаў Рады Ваяводскага саюза сялянскіх гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый); калектыў з Нараўкі, які вядзе сёння Анатоль Куніцкі з Гародні; „Журавінкі" з Агароднічак (наракалі нам, што прасілі ў гміне ў Супраслі дваццаць мільёнаў, далі два мільёны чатырыста — якраз на вянкі); гарадоцкі калектыў, які выступіў, поўны ўражанняў ад побыту ў Менску, дзе быў на запрашэнне Станкабудаўнічага завода; калектыў з Чыжоў (хаця і ў няпоўным складзе); „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, калектыў з Чаромхі. Жанчыны з Райска, якія са сцэны расказалі пра трагедыю свае вёскі і папрасілі, каб хоць скромную палявую кветку госці ўзлажылі ля помніка ў памяць спаленых вёсак і ахвяр гітлераўскай акупацыі. Былі вянкі і букеты не толькі ад урада.

І хаця беларускія калектывы добра вядомыя тутэйшым людзям, усе седзячыя месцы ў амфітэатры былі занятыя нават тады, калі ўжо ўрадавая дэлегацыя сустракалася з асобнымі калектывамі ля вогнішчаў над ракою, а некаторыя зверху аглядалі гэта як нейкае відовішча.

Што датычыць вырабаў народных творцаў, якія можна было ў Нараўцы не толькі агледзець, але і купіць, дык было іх найбольш з Арлянскай гміны. Мікалай Казачук з Рудутаў паказаў вырабы з саломы. Вось у саламяную каробку як пакладзеш сухія яблыкі ці грушы, пераконваў ён мяне, дык яны не набяруць вільгаці. А пакладзі ты яйкі — не высахнуць! Такую мае яна сілу, наша салома. Добра трымаць тут фасолю, муку, крупу, сушаныя грыбы. О-о! Калісь дык была Цэпэлія, туды ўсё здавалі, вазілі свае вырабы ў Варшаву, Казімеж, Гданьск, а сёння людзі не надта купляюць... Вырабы з саломы паказалі і Васіль Орда з Орлі, і Уладзімір Цэтра з Кашалёў.

Былі тут творцы і з Белай-Падляшскай, і з Ліпска, і з яшчэ далейшых мясцовасцей. Сустрэла я тут Пятра Наумюка, сына вядомага народнага творцы з Канюкоў Уладзіміра Наумюка. Ён таксама разьбяр, закончыў Супрасльскі мастацкі ліцэй, жыве і творыць у Беластоку. Сёння выстаўляў разьблёныя фігуркі перш за ўсё святых.

Быў тут і сам прэзас Беластоцкага аддзела Саюза народных творцаў Пётр Шаткоўскі з Саколкі. Паказаў абаяльную разьбу ў дрэве не толькі святых, але і звычайных людзей: дрывасека, гарманіста, старэчу.

Поўна было на прылаўках макатак, сухіх кветак, разьблёных птушачак, пеўняў-дзеркачоў — усяго таго, што могуць зрабіць сялянскія рукі без ніякіх хітрых прылад.

Каля мяне паявіўся васьмідзесяцігадовы Міхась Панфілюк. Пачуўшы беларускую мову, пытае: „Вы з „Нівы"?" Працаваў тут калісь пісьманосцам, цяпер на пенсіі, але яшчэ працуе. Мо таму і выглядае гадоў на дзесяць маладзейшым. Я, кажа, ад пяцьдзесят шостага распаўсюджваў „Ніву". Яна мне ў торбу не ўлазіла! Цяпер, праўда, чытаюць менш, але можна яе купіць на поште і ў дзвюх крамах, у школе таксама яна ёсць. А я „Ніву" чытаю рэгулярна, толькі яе і купляю. Вы для нас — гэта ўсё!

І так мы стаялі і гутарылі, нехта яшчэ спяваў на сцэне, нехта слухаў, іншыя гулялі ў валейбол — пачаліся спартыўныя розыгрышы. Хтосьці перакусваў, а хтосьці дзівіўся на паветраны шар, які напаўнялі гарачым паветрам, і думаў: „Узляціць, ці не ўзляціць?.."

Прэм'ер В. Цімашэвіч і іншыя важныя госці хадзілі ад вогнішча да вогнішча, віталіся з самадзейнікамі, слухалі іх спевы, а часам і дапамагалі ім. Стралялі петарды, але людзі з аховы ўрада на гэтыя стрэлы не рэагавалі.

Ізноў бабы зрабілі вялікую справу.

**Ада Чачуга**

*Фота Збігнева Возьняка*



*Прэм'ер-міністр В. Цімашэвіч разумее радасці і клопаты жанчын.*

<u>Якія мы людзі</u>

# Хто мы такія?

Калі вяртаюся памяццю ў мінулае, не памятаю, каб у Кузаве гаварылі, што сярод нас жывуць украінцы. Праўда, гаворка наша напамінае больш „хахлацкую" чым беларускую, аднак і дыялекты жыхароў Чаромхаўскай гміны розняцца між сабою. У Ставішчах і Вульцы-Тэрахоўскай інакш гавораць, як у Кузаве ці Чаромсе. У нас кажуць: „пушлі", „ходылі", „робылі", у Ставішчах і Вульцы-Тэрахоўскай: „пушлы", „ходылы", „робылы". А вёскі ў нас усяго на 2—3 кіламетры аддеглыя адна ад адной.

Гаворка не сведчыць аб нацыі чалавека, а толькі ўласныя пачуцці. Якія нашы карані, якая радаслоўная, найлепш ведае старэйшае пакаленне, а не моладзь.

У гэтай справе магу нешта сказаць на прыкладзе сваіх бацькоў. Маці калісьці мне казала, што мая бабуля выводзіцца з Кобрына, таму і матулю маю называлі не інакш, як „кабрынчанкай". Бацька мой родам з Дабрывады.

Памятаю, як будучы ў камандзіроўцы з кінаперасоўскай у Дабрывадзе наведваў я сваіх дзядзькоў — Рамана Сідарука і Мікалая Рачкевіча. Часценька прыходзілася мне гутарыць са сваёй бабуляй Андрэйчыхай, матуляй дзядзькі Рачкевіча (маці майго бацькі з Рачкевічаў). Мы гаварылі на беларускай мове. Бабуля Андрэйчыха свабодна валодала беларускай мовай, калі я толькі ставіў першыя крокі, як карэспандэнт „Нівы".

Памятаю і тое ад бацькі, што ў Кузаве, пры санацыі была ячэйка Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Налічвала яна каля дзесяці членаў, а бацька быў адным з іх. Ніколі ў нашай сям'і бацькі не сказалі, што мы — украінцы.

Успомню іншыя факты, якія тычацца Вулькі-Тэрахоўскай і навакольных вёсак. У канцы пяцідзесятых гадоў, калі БГКТ расквітнела на ніве культурнай дзейнасці, у Чаромхаўскай гміне працавалі гурткі БГКТ. Ніхто не гаварыў аб Украінскім таварыстве. Толькі ў суседніх Кляшчэлях сп. Галіна Місяюк, загадчык мясцовага дома культуры, сарганізавала адзіны гурток УГКТ.

А як арганізаваўся гурток БГКТ у Вульцы-Тэрахоўскай? Памятаю, сабраліся мы ў хаце мясцовай солтыс Аляксандры Назарук. Талковая жанчына яна была, сапраўдны гаспадар вёскі і добры арганізатар. Заўсёды ішла яна з духам часу і многа памагала валянскім БГКТоўцам у культурнай дзейнасці. Гэта ў яе хаце збіраліся дзяўчаты, каб паспяваць. А спявалі валянскія самадзейнікі цудоўна. Напэўна па сённяшні дзень засталіся ў памяці жыхароў Нарвы частушкі ў выкананні Валі Пятышук і Марысі Якубіч. Бурныя апладысменты і бісы ўдзельнікаў нарваўскага фэсту заставілі валянскія дзяўчаты паўтараць паасобныя нумары канцэрта.

А як было з „Нівай"?

Чаромхаўская пошта не мела вялікіх дасягненняў у падпісцы часопіса. У 1975 г., напрыклад, было ўсяго 14 падпісчыкаў, затое кіёск „Руху" на пероне чыгуначнай станцыі прадаваў каля пяцідзесяці экземпляраў.

У Чаромхаўскай гміннай школе дзеці калісьці вучыліся беларускай мове. Пасля бацькі і дзеці проста адмовіліся. Тлумачылі, што гэта перашкаджае дзяцям вывучаць польскую мову, што вучань стамляецца, што беларуская мова непатрэбная, бо ў хаце гавораць на мясцовым дыялекце і г.д.

У адным з такіх бацькоўскіх сходаў прыйшлося і мне ўдзельнічаць. Было гэта ў 1958 годзе. Паехаў я з тадышнім сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ Віктарам Шведам. Якое было маё здзіўленне, калі супраць навучанню беларускай мове выступілі перад усім мае аднавяскоўцы, кузаўцы. І сам дагэтуль не ўцямлю, чаму так было.

А зараз?

Некалькі гадоў таму назад у Чаромсе арганізаваўся гурток Украінскага таварыства. Актыўна ён дзейнічае, у выніку чаго ў школе ў Чаромсе каля трыццаці дзяцей вывучаюць ужо ўкраінскую мову. Найбольш „ахвотных" пастуліла... з Кузавы.

Дзіўна, што бацькі не кажуць ужо, што іх дзеці стамляюцца, дадаткова вывучаючы ўкраінскую мову, што мова гэтая непатрэбная, бо і так у Кузаве людзі карыстаюцца мясцовай гаворкай.

Паказваючы тыя факты хачу падкрэсліць, што я не вораг украінскім дзеячам у Чаромсе. Гэта ж моладзь, якой падабаецца ўкраінская музыка. Ці гэта дрэнная з'ява? Напэўна не. Я сам купляю многа магнітафонных касетаў з украінскімі песнямі. Сябрую з многімі ўкраінцамі. Аднак не кажу, што я — украінец.

Я — беларус! Так мне казалі бацькі. Такая мая радаслоўная і тутэйшага насельніцтва.

А тое, што мае аднавяскоўцы, нават сваякі (мой пляменнік з'яўляецца актыўным дзеячам Саюза ўкраінцаў Падляшша ў Чаромсе) называюць сябе ўкраінцамі — іхняя справа, але няхай не ўнушваюць, што ўсё насельніцтва тут украінскае.

Канстытуцыя нашай дзяржавы кожнаму грамадзяніну гарантуе свабоду пачуццяў і веравызнання.

Мы ўсе тут — нацыянальная меншасць у Польшчы (і беларусы, і ўкраінцы) — павінны жыць дружна і згодна. А працягваць традыцыі і не забываць культуру нашых продкаў — гэта наш святы абавязак.

**Уладзімір Сідарук**

# Фестываль „Гайнаўка'96"

Адкрыццё Фестывалю адбылося вечарам 19 мая ў Саборы Св. Тройцы пры вуліцы Антона Дзевятоўскага. Пачалося ад руціннага афіцыёзу, падчас якога між інш. быў зачытаны ўрачысты адрас ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай Аляксандра Кваснеўскага. Далей былі пафасныя прамовы высокіх гасцей — сваіх і аднаго замежнага. Замежнік, француз, гаварыў па-англійску, што даставіла тутэйшаму міжнароднафестывальнаму перакладчыку трохі турбот. (Гэтай цяжкай і стрэсароднай працай гуляў крыху калісь і я.) Едуць людзі ў Польшчу і, замест вывучаць *holy polish language, яко же и мы изучаемъ*, вучацца нікому тут непатрэбнай і, нададатак, клапатлівай англійскай. Былі яшчэ зачытаны рашэнні аб прысваенні важных грамат і залатых адзнакаў; крытэрыі, як мне паказалася, былі самыя перадавыя — параўнальныя з галівудскімі. Адкрыла Фестываль мэр Гайнаўкі.

Народу прыйшло толькі, колькі змясціла царква, звонку было зусім мала. Паўплываў на гэта, думаю, візіт апоўдні таго самага дня ў недалёкую шасцей Ежы Бісяк, змагаючыся без асаблівага энтузіязму з патрэбнымі яму, пэўна як зайцу стоп-сігнал, хараламі, распевамі і *кантамі*. Я б на яго месцы пакутаваў не менш. Бо і мусіла акурат на яго выпасці гэта тут роля, быццам бы ў Міністэрстве культуры і мастацтва не было нікога ад музыкі... Можа гэта тонкая намінка пра прысакрэчаныя адносіны варшаўскіх улад да Фестывалю, хаця дзе-нідзе гайнаўскае мерапрыемства параўноўваецца з шапэнаўскімі конкурсамі, як падзею найвышэйшага мастацкага рангу. Няма дзіву: які тут сэнс, калі мова спеваў не супадае з мовай варшаўскай...

Захапіў мяне найбольш, аднак, святар, што сядзеў на самым ганаровым месцы, мусіць аднекуль з-за мяжы прыехаў. Слухаў ён канцэрт з палымяным захапленнем: з палаючымі вачыма і шчокамі, быццам падлетак глядзіць спектакль-казку пра бедных дзетак, што папалі ў хатку на курынай ножцы. Відаць, спалучэнне формы казачна яму прыгожага спеву з найглыбейшым рэлігійным зместам было для яго асаблівай духовай асалодай.



*Маладзёжны хор прыхода Св. Мікалая з Беластока пад кіраўніцтвам а. Аляксандра Лысынкевіча.*
Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

Нараўку самога прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча; многія гайнаўскія пагналіся яго пабачыць, хаця б нават здалёк — такі высокі чын не паяўляўся ў гэтых ваколіцах ад некалькіх ужо пакаленняў, а дакладней — ад панавання Іх Сіяцельстваў Раманавых. Ну і гэтых эмоцый хапіла на цэлы дзень і не было ўжо чаго падавацца ў царкву, у якой Цімашэвіч, нададатак, не прадбачваўся.

Дарэчы, калі закончылася афіцыйная частка гайнаўскай урачыстасці і пачаўся канцэрт у выкананні мінулагодняга лаўрэата — камернага хору Гомельскай філармоніі, шматавата гледачоў пачалі паціханьку ўвільваць дадому. Гледачы прыйшлі пагладзець хто і з кім прыехаў, а не слухаць нейкія спевы.

Калі стала вальней, увайшоў і я ўсярэдзіну. Можна ўжо было без клопату стаць, дзе заманулася. Пайшоў я наперад, каб глянуць, што ў першым радзе, дзе селі найважнейшыя. Даўнінную хараву музыку ў прафесіянальным выкананні ўспрымалі яны даволі пазяхліва — большасць з іх гэта яшчэ нядаўна прысяжныя атэісты. Постсавецкія сядзелі на правым фланзе — стрымана, быццам на нейкім сходзе ці з'ездзе, у якіх практыкаваліся многія гады. З другога боку сядзелі польскія; мэр горада гартала фестывальны буклет.

Левы фланг закрываў дырэктар Бюро п/с культуры нацыянальных мен-

Звярнуў я яшчэ ўвагу на гасцей з Чорнай Афрыкі, што ўпершыню паказаліся на Фестывалі. Сядзелі яны ў чацвёртым радзе і з вялікаю ўвагай слухалі экзатычную ім музыку. Ды і іх спевы, якія яны пару дзён пазней заспявалі, былі як жа адрознымі ад усходнееўрапейскіх і выдатна ўзбагацілі нашы веды пра багацце праваслаўнай сакральнай музыкі.

Відаць было таксама, што фестывальныя спевы, гэта патрэба душы многіх гайнаўскіх слухачоў. У большасці прыйшлі людзі, якія са спевам сутыкнуліся, калі яшчэ не было тэлебачання — калі ў цэрквах і па вёсках спявалі **свае** песні.

* * *

Большасць фестывальных выканаўцаў дае канцэрты, апрача гайнаўскай, і перад беластоцкай публікай — у Свята-Духаўскай царкве. У чацвер 23 мая выступілі тут хоры з Ярабіны (Славакія), Мошны (Украіна), Бялграда (Сербія) і Цюрыха (Швейцарыя). Паколькі тры першыя найзвычайней спяваюць на роднаснай сабе мове, варта слоў пару прысвяціць апошняму, з якім справа маецца крыху інакш. Цюрыхскія харысты на штодзень карыстаюцца нямецкай мовай, песні свае аднак выконваюць на чужой ім стараславянскай. Найбагатшыя ў Еўропе швейцарцы могуць сабе пазволіць на такую фанабэрыю. За некалькі гадоў пэўна і ў нас будзе нешта падобнае; не маю тут на думцы, на жаль, багацця. У беластоцкай царкве амаль не чулася ў прыватных размовах прысутных мовы іх продкаў, для якіх стваралася выконваемая там музыка; нашы людзі ахвотна апапугайваюцца, калі пападуць з роднага раздолля ў гарадскую клетку. Дарэчы і шматлюднасць слухачоў была памяркоўная — у храме магло б змясціцца яшчэ столькі. Да таго ж цяжкая і цёмная царква ў нейкай ступені нагадвала катакомбы, у якіх колішнія хрысціянскія вернікі хаваліся са сваёй духоўнасцю...

* * *

У суботу 25 мая апошні дзень конкурснага агляду. Выступаюць прафесіянальныя выканаўцы. Царква бітком набіта слухачамі — выступаюць жа найлепшыя. Публіка выдатная — людзі ведаюць чаго прыйшлі; чуваць адно музыку. Толькі на царкоўным дварэ хто-дзе гутарыць, хаця і гэта магло б адбывацца ў большым адасабленні, бо і тут таксама слухаюць. Перад уваходам у царкву прадаюцца фанаграфічныя выданні Гайнаўскага дома культуры, звязаныя з Фестывалем: касеты і кампактныя дыскі. Побач прапануюць магнітафонныя касеты выканаўцаў з Калінінграда. У кіёску пры царкве можна купіць іконы і рэлігійную літаратуру; ёсць таксама і кнігі практычнага зместу — як выпякаць пасху ці як маліцца супраць п'янства. У падвале царквы выстаўка мастака Мішальскага з выявамі цэркваў, галоўным чынам з паўднёва-ўсходніх акраін: шмат з іх у выніку акцыі „Вісла" адышлі ад праваслаўя.

Вяртаюся ў Беласток. Як вокам кінуць, згаладнелая праз цяжкую зіму зелень прагна п'е зямныя сокі, што шчыра падліваюць дажджы, і рвецца ўвышыню быццам калісь Казакевіч у Маскве. І Фестываль жыве людзьмі, што выраслі з гэтай зямелькі. Ці будзе ён бурліць жыццём, калі новыя людзі ў гарадскіх клетках канчаткова адарвуцца ад сваіх каранёў?..

* * *

Гаворачы пра Фестываль, трэба згануць і пра спонсараў, галоўным чынам тутэйшых прадпрымальнікаў, дзякуючы якім маем тое, што маем.

Згануць трэба таксама пра канцэрты непрафесіянальных выканаўцаў у многіх вёсках Беласточчыны, дзякуючы чаму іх песні магло пачуць і пакінутае на гэтых вёсках старэйшае пакаленне, што нясло аж у наш час нашу супольную ўсходнееўрапейскую духоўную спадчыну, якою жыве гайнаўскі Фестываль.

* * *

Наканец пераможцы сёлетняга Фестывалю:

У катэгорыі парафіяльных вясковых хораў — хор прыхода Нараджэння ПДМ з Ярабіны (Славакія).

У катэгорыі парафіяльных гарадскіх хораў — хор прыхода Св. Архангела Гаўрыіла з Бялграда (Сербія) разам з маладзёжным хорам прыхода Св. Мікалая з Беластока.

У катэгорыі іншых прыхадскіх хораў — хор Аддзела праваслаўнай тэалогіі з Ясаў (Румынія).

У катэгорыі непрафесіянальных свецкіх хораў — хор Медыцынскай акадэміі з Беластока, а яе дырыжор Бажэна Савіцка атрымала выдучэнне.

У катэгорыі прафесіянальных хораў — Дзяржаўны хор радыё і тэлебачання Беларусі з Мінска разам з Камерным хорам „Кіеў" з Кіева.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Закладка двух храмаў



*Мітрапаліт Васілій свяціць краевугольны камень пад капліцу Св. Мікалая.*

Нядзеля 18 мая стала для праваслаўных жыхароў Бельска-Падляшскага незвычайным святам. Ужо гадоў дзвесце ў горадзе не будавалася праваслаўная царква. А ў гэты дзень мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій пасвяціў краевугольны камень пад Свята-Успенскі храм, які стане пры вуліцы Міцкевіча. Вакол яго будзе створаны новы прыход з часткі сённяшняга Прачысценскага.

Урачыстасць праходзіла такім чынам, што пасля літургіі ў Прачысценскай царкве, якую ўзначаліў Яго Блажэнства Васілій, духоўныя і вернікі перайшлі на месца пабудовы. Там таксама правілася багаслужба і высвячаўся закладны камень. У свяце прымалі ўдзел нескалькі тысяч бяльшчан і прыезджых.

Зусім іншае — камернае — было высвячэнне краевугольнага каменя пад капліцу святога Мікалая, у рагу цяперашняга пляца Пачатковай школы н-р 3. На гэтым месцы стаяў калісьці Свята-Мікалаеўскі манастыр. З ініцыятывай ушанаваць памяць выйшла Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-Бельскай епархіі.

У прывітальным слове, па-беларуску, вучаніца „тройкі" выказала радасць, што суседства каплічкі са школай будзе духоўна ўзбагачаць моладзь.

Уладыка адказаў таксама на беларускай мове: „У лесе, дзе адны старыя дрэвы, няма жыццярадаснага шуму. Толькі там ёсць жыццё, будучыня, дзе бурліць маладосць. Вы, дзеткі, працягвасце тую духоўную традыцыю, якую стварылі тут нашы далёкія продкі. Дзякуючы вам, праваслаўе на гэтай зямлі жыве паўнатою жыцця". **(ак)**

Фота Юркі ПАПЛАЎСКАГА



*„Прывітальны камітэт".*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

А цяпер давайце прыглянемся як пачалі жыць нашы продкі, атрымаўшы доўгачаканую волю. Трэба аднак тут зазначыць, што воля, якую яны тады атрымалі, не была адразу поўнай воляй.

Лічылася, што асабістую волю кожны прыгонны селянін або „крепостная душа" атрымаў па „высочайшему царскому повелению" бясплатна, бо цар быў вельмі добры і моцна любіў крэпасныя душы, як кожную паасобку, так і ўсіх оптам.

А вось атрыманую зямлю кожны каханы царом мужычок павінен быў выкупіць сам. Вольных земляў, як было ўжо сказана, у нас не было. Уся зямля і ўсё на ёй ужо належала панам памешчыкам, якіх цар яшчэ больш любіў, чым мужыкоў. І як жа ж скажыце іх не любіць, калі найбольшым памешчыкам быў сам цар-бацюшка?!

Вось вам і парадоксік. Цар-бацюшка ў сваёй бязмежнай дабрыні ўсіх сваіх падданых любіць моцна-моцна, а некаторых яшчэ мацней. Усім сваім падданым жадае толькі дабра і справядлівасці, і робіць усё магчымае, каб гэтыя дабро і справядлівасць у яго дзяржаве панавалі.

Сяляне атрымалі надзелы панскай зямлі, значыць павінны былі за яе панам заплаціць. Закавыка была аднак у тым, што атрыманая сялянамі зямля была вельмі дарагая, а сяляне страшэнна бедныя. Адкуль, зрэшты, ім і быць багатымі, калі дасюль не яны, а імі таргавалі.

Выхад знайшоўся геніяльны і просты, сплата даўгу пану за атрыманы зямельны ўчастак была разложана на многія раты. Маглі рэгуляваць яго сяляне па-рознаму: плаціць грашовы чынш ці адрабляць паншчынай. Маглі таксама часткова плаціць чынш і часткова адрабляць паншчынай, зямлі ж у паноў асталося нямала і працаваць на ёй яны самі не збіраліся. Толькі пасля поўнай сплаты сялянамі даўгу, яны мелі быць поўнасцю вольнымі, а зямля стаць іх уласнасцю. Адным словам, адкрывалася цудоўная перспектыва перад душамі.

Пакуль аднак не быў сплачаны ўвесь доўг, сяляне не мелі поўнай волі, а лічыліся часова залежнымі — „временно-зависящими". Такі стан трываў у нас аднак нядоўга.

Змены наступілі пасля студзеньскага паўстання 1863 года і ў сувязі з гэтым паўстаннем, якое карысталася ў нас афіцыйнымі дзяржаўнымі тэрмінамі — мяцеж, мяцежнікі.

Студзеньскае паўстанне надта грозным царызму не было, але дакучлівым напэўна — партызаншчына ж, вядома. Грозным магло быць толькі масавае паўстанне, а масавасць у той час магло яму запэўніць толькі сялянства. Польскія сяляне, аднак, не вельмі гарнуліся ў яго рады, бо не бачылі ў ім ніякай карысці для сябе. Бадай адзіным аргументам, здольным прыцягнуць і сялян да паўстання тады, быў моцна экспанаваны патрыятычна-рэлігійна-каталіцкі аспект.

Тым больш не гарнуліся да паўстання беларускія праваслаўныя сяляне, бо той адзіны аргумент, які яшчэ прыцягваў да паўстання польскага халопа, адпуджваў беларускага праваслаўнага мужыка. Немалую ролю адыгралі тут і паводзіны паўстанцкіх атрадаў у адносінах да беларускага праваслаўнага насельніцтва, якія забіралі правіянт, фураж, адзенне. Людзей нібыта і не чапалі, але праваднікі, якіх часта з сабой бралі паказаць дарогу, часцей за ўсё ўжо не вярталіся дадому. Нярэдка чапляліся таксама да вясковых старастаў і праваслаўнага духавенства.

Бітваў паўстанцкіх атрадаў з царскімі войскамі ў нашай найбліжэйшай ваколіцы не было. Толькі адзін казакразведчык нарваўся на паўстанцкі атрад у нашай вёсцы. Пачаў уцякаць і з разгону трапіў у багну каля рэчкі. Толькі яго і бачылі, патануў з канём і ўсёй казацкай амуніцыяй.

Вось такія былі пачаткі волі. І хоць былі яны, як бачым, нялёгкімі і не зусім такімі, якіх многія чакалі, трэба аб'ектыўна прызнаць, што была гэта вельмі важная падзея. Гэта быў круты паварот у жыцці нашага народа.

Ці разумелі нашы продкі важнасць і патрэбу гэтых змен? Далёка не ўсе. Чалавек ужо па сваёй натуры істота надзвычай кансерватыўная. Яшчэ больш кансерватыўным з'яўляецца грамадства. А яшчэ больш кансерватыўным было і ёсць беларускае грамадства. Беларусы — гэта тыповыя класікі кансерватызму. Яны заўсёды баяліся і баяцца змен, усяго новага ў сваім жыцці.

Так і з воляй: адны яе вельмі хацелі, другія менш, а трэція проста баяліся яе. Можа і не дзіва, што баяліся, бо былі гэта вялікія змены, змены цэлага ўкладу іх жыцця і яго філасофіі.

Ад тых жа старажылаў даведаўся я таксама, што жыхары вёскі Локніцы пайшлі да свайго пана і заявілі, што яны не хочуць волі, а хочуць надалей жыць так, як дасюль жылі. Бо як жа жыць без пана?!

І так на нейкі час асталося. Хутка вольныя людзі і самастойныя гаспадары пачалі разжывацца, багацець. Не ўсе, канешне, аднолькава. Гэта быў ужо капіталізм і наступала хуткае расслаенне вёскі. А лакнічане надалей былі ўсе роўна бедныя і поўнасцю залежныя ад пана. У ваколіцы іх пачаліназываць „гороўнікамі". Гэта назва з часам пераўтварылася ў „рогоўнікі". Калі лакнічане атрымалі волю, не ведаю...

Следчая камісія над удзельнікамі студзеньскага паўстання, якая дзейнічала ў час і пасля яго, устанавіла, што былі такія мужыкі-паўстанцы (у тым ліку і беларусы), якія сталіся паўстанцамі не па свайму перакананню і волі, а па волі сваіх паноў, якія ў большасці сваёй былі гарачымі прыхільнікамі паўстання. За ўдзел селяніна ў паўстанні некаторыя з іх абяцалі дараваць яму незаплачаны чынш за зямлю ці паншчыну. Удзел у паўстанні ставаў, значыць, часам формай сплаты даўгу пану.

Каб зрабіць сялян незалежнымі ад польскіх паноў, царскі ўрад сплаціў панам усе сялянскія даўгі. Потым гэтыя даўгі разлажыў на сорак гадоў і казаў сялянам сплачваць іх у царскую казну ў форме падаткаў. Толькі пасля гэтага тэрміну атрыманая сялянамі зямля мела быць поўнасцю выкупленай, і падатkaў за яе мелі больш не плаціць.

Ад гэтага часу прайшло ўжо тры разы па сорак гадоў, а селянін так як плаціў падаткі, так і плаціць, і, здаецца, плаціць будзе.

Пра адно забаўнае здарэнне, звязанае з платай такога падатку, аднасяльчане расказвалі не раз. З цэлай вёскі быў сабраны падатак і трэба было даставіць яго ў адпаведную ўстанову ў Беласток. Адказны за яго даставу быў тыповым тагачасным мужыком: неграматны, наіўны. Ужо ў горадзе ён кожнага сустрэчнага і папярэчнага — як у нас кажуць — дапытваўся, дзе прымаюць падаткі, і яму, хто як умеў ці хацеў, адказвалі. Але гэтых інфармацый вяскоўцу было ўсё мала і мала. Нарэшце трапіў ён на добрага і спагадлівага чалавека, які ахвотна ўзяўся давесці яго аж на месца. І давёў. Там, як і належыць салідной установе, прынялі яго культурна: пасадзілі, прынялі грошы, выдалі пасведчанне. І ён, ад душы падзякаваўшы свайму памагатаму і „панам-чыноўнікам", з радасным пачуццём салідна споўненага абавязку вярнуўся дадому і аддаў каму трэба квітанцыю — доказ платы. А ў гэтым фінансавым пасведчанні чорным па белым было напісана: „Znalazł mądry głupiego i pobrał podatek od niego, a wy ludzie o nic więcej nie dbajcie, tylko na nowo podatek zbierajcie". І была гэта найпраўдзівейшая праўда. Трэба было зноў сабіраць падатак і разлічвацца з казной...

Як зарэагавалі мае землякі, даведаўшыся праўды пра лёс сваіх падаткаў, магу толькі здагадвацца, але пазнейшыя расказчыкі пра гэта здарэнне і слухачы заўсёды дружна рагаталі і з літасцю ківалі галовамі над наіўнасцю свайго продка, які так лёгка даўся абдурыцца беластоцкаму жуліку. Да жуліка наадварот, не толькі ніхто не меў жалю, а быў ён проста як бы іх героем. І мелі рацыю. Мне ён таксама падабаецца. Калі ў тыя далёкія царскія часы мы ўжо мелі такіх высокапрафесіянальных, культурных і з бясспрэчным літаратурным талентам жулікаў, то мы былі ўжо тады ў Еўропе, да якой так прэм цяпер і прэм і ніяк дагнаць не можам.

*(працяг будзе)*

**На Пушчы паставілі кропку**

# Міністр вырашыў за ўсіх

— Мы падпісваліся бадай усе, калі леснікі хадзілі збіраць подпісы, — кажа Мікалай Чарнецкі з Нараўкі. — Сказалі нам, што **яны** могуць зрабіць усё з гэтай пушчай, значыць, пашырыць яе, запаведнік такі зрабіць, быццам і людзей тут няма, а мы ўсе, што яшчэ тут жывем, каб у сваім лесе не ўзялі ні ягады, ні грыба. Ано *заказы* і *заказы*.

— Я думаю, што гэта толькі на смех яны ў нас пыталіся, ці хочам мець тут запаведнік, — дадае Вера Хвойка . — І ў войтаў пытаюцца, ці хочам мець тут запаведнік, ці як там яму, а і так зробяць так як захочуць, як **ім** трэба. Я ўжо год чытаю па газетах, што ў нас тая пушча ўжо „пашырана", што жывем у рэзервацые.

— А што, можа мы не ёсць „рэзерват"? Во як фальклор добра прэзэнтуецца на фоне зялёнага, — заўважае Толік Скепка. — Нават „не" не скажа люд тутэйшы.

У мінулым нумары „Нівы" можна было прачытаць пра перыпетыі з расшырэннем Белавежскага нацыянальнага парку. 18 красавіка войты Нараўчанскай і Белавежскай гмін адкінулі праект пагаднення прывезены ім міністрам аховы асяроддзя Жаліхоўскім. Мелі за словы згоды атрымаць абяцанні прэферэнцыйных крэдытаў, назначаных на экалагічныя інвестыцыі. Гміны тады не мелі паўнамоцтваў ад рад. Прапанаваліся далейшыя перамовы для атрымання не толькі крэдытаў, але і датацый.

Міністр, не чакаючы згоды гмін, рашыў падаць свой праект аб пабольшанні Белавежскага нацыянальнага парку ў Раду Міністраў. 13 мая Эканамічны камітэт Рады Міністраў праект адобрыў і рэкамендаваў ураду распараджэнне ў справе Белавежскага парку. Гэта значыць, што на справе паставілі ўжо кропку: урад фармальна зацвердзіў тое, што парк будзе пабольшаны ў два разы (да больш за 10,5 тыс. га). Кошты ўзрастуць на 516 800 зл., на 15 штатаў будуць грошы з бюджэту БНП, як і на 10 штатаў у падсобнай гаспадарцы.

На рабочай сустрэчы з войтамі і старшынямі гмінных рад Белавежскай і Нараўчанскай гмін дырэктар Аддзела аховы асяроддзя Ваяводскай управы Аляксандр Бясядзкі і віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі яшчэ раз абмеркавалі праект дамовы. Стараліся пераканаць самаўраднікаў, што крэдыты „не пацягнуць іх на дно", што магчыма будзе іх сплата, дзякуючы ўмовам, якія несумненна ўдасца адваяваць, адтэрмінаваць, выкарыстаць перыяд карэнцыі, а нават і пагасіць. Да 22 мая мелі свой праект яшчэ раз перагледзець, прынясць заўвагі і перадаць яго віцэ-ваяводу, а той дамовіць іх, адумаўшыхся самаўраднікаў, у міністэрстве...



*А што думае „люд тутэйшы"...*

Стварэнне нацыянальных паркаў не патрабуе згоды самаўрадаў — так „стаіць" у правілах аховы прыроды. Зацвярджае іх урад па прапанове міністра аховы асяроддзя, прыродных рэсурсаў і лесаводства. Белавежскі нацыянальны парк мае быць пабольшаны з тэрыторыі дзяржаўных лясоў, а Рэгіянальная дырэкцыя дзяржаўных лясоў дала сваю згоду. З размоў, праведзеных сярод леснікоў на „нізах" і ў „вярхах", жыхароў і самаўраднікаў вынікае, што аж здзіўляе іх той клопат, што міністры і ўрад *raczyli* яшчэ з імі размаўляць і пытаць раду, калі „кропка" была ўжо даўно пастаўлена.

Недамоўкі засталіся, горыч і трывога таксама, хаця мінстэрства пакрывае ўсё словамі аб пашане лакальнай думкі і „развеянні трывог грамадскага і гаспадарчага характару". Дырэктар Бясядзкі палохаў нават, што калі гміны будуць справу адцягваць, то астануцца з фігай, а „пушча будзе і так узрастаць у сілу". Nie będzie nas... Тутэйшы люд да такога прывык здаўна.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**2 чэрвеня**

455 г. — кароль вандалаў Гейзарых здабыў Рым і дазволіў грабіць горад на працягу двух тыдняў. Знішчана многа скарбаў культуры.

1887 г. — кайзер Вільгельм II выкапаў першы штых, пачынаючы будову Кільскага канала.

1924 г. — індзейцы ЗША атрымалі поўныя грамадзянскія правы.

1953 г. — Елізавета II каранавана каралевай Вялікабрытаніі і Ірландыі.

1979 г. — упершыню рымскі папа, Іаан Павел II, наведаў Польшчу.

**3 чэрвеня**

1841 г. — памёр Франсуа Апер, французскі вынаходца кансервіравання.

1946 г. — рэферэндум у Італіі выказалася за рэспублікай; кароль Умберта II здаў уладу.

1979 г. — некантраляваны выток нафты ў Мексіканскім заліве, які доўжыўся да сакавіка наступнага года.

1989 г. — у ноч на 4 чэрвеня часці 27-й кітайскай арміі крывава разагналі мірную дэманстрацыю на плошчы Нябеснага Спакою ў Пекіне; загінула каля трох тысяч чалавек.

**4 чэрвеня**

1832 г. — у Вялікабрытаніі выбарчае права атрымалі ўласнікі і наймальнікі дамоў; рабочыя асталіся па-за палітыкай.

1844 г. — у Сілезіі ўспыхнулі забастоўкі ткачоў, якія пасля трох дзён былі крывава падаўлены войскам.

1872 г. — памёр кампазітар Станіслаў Манюшка.

1920 г. — мірны дагавор у Трыянон паміж Венгрыяй і дзяржавамі-пераможцамі; Венгрыя страціла дзве трэці свае даваеннае тэрыторыі.

1989 г. — першыя выбары ў Польшчы з удзелам апазіцыі.

**5 чэрвеня**

1783 г. — Жазэф і Жак Мангальф'е ўпершыню падняліся на паветраным шары.

1898 г. — нар. іспанскі паэт Фэдэрыка Гарсія Лорка.

1931 г. — нямецкі фізік Макс Кноль аб'явіў пра збудаванне першага электроннага мікраскопа.

1947 г. — амерыканскі міністр замежных спраў Джордж Маршал выступіў з праектам гаспадарчай адбудовы Еўропы пасля II сусветнай вайны.

1967 г. — пачатак шасцідзённай вайны Ізраіля з арабскімі дзяржавамі.

**6 чэрвеня**

1599 г. — нар. Дыега Веласкес, іспанскі мастак.

1799 г. — нар. Аляксандр Пушкін, расійскі паэт.

1950 г. — урад ГДР прызнаў граніцу на Одры і Нысе.

1984 г. — спецчасці індыйскай арміі штурмавалі Залаты храм у Амрытсары, галоўную святыню сікхаў; загінула каля шасцісот чалавек.

**7 чэрвеня**

1494 г. — дагавор у Тардэсільяс вызначыў граніцу між Іспаніяй і Партугаліяй.

1981 г. — ізраільская авіяцыя збамбіла іракскі рэактар у Багдадзе перад яго пускам.

**8 чэрвеня**

632 г. — у Медыне памёр Магамет, заснавальнік ісламскай рэлігіі.

793 г. — разбурэннем манастыра Ліндсфарна ў Англіі пачалася экспансія нарманаў у Еўропу і Русь. **(Ш)**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Мілы Астрончык! Мая мама заўсёды чытае ў „Ніве" сны, якія ты разгадваеш. Мне 12 гадоў і я першы раз рашыла напісаць табе, што мне прыснілася.

Сон быў страшны, але не зусім. Я ўбачыла трох вялізных вужоў, якія зрасліся галовамі. Былі яны велізарныя, такія, як тыя павільёны, што пабудавалі перад нашымі вокнамі. Я пачала ўцякаць ад гэтых вужоў, а яны — за мною! Я ўцякла на высокае дрэва. Сяджу сярод лісця, а яны лезуць за мною, караскаюцца на дрэва. Тады я ўцякаю ў пячору, якая знаходзіцца непадалёку. Схавалася там. Вужы шукалі мяне, але не знайшлі. Разззлаваліся і, такія вялікія, магутныя, пайшлі развальваць горад. Валяцца будынкі, таксама розныя будкі, а я зусім ужо гэтых вужоў не баюся. Напішы, Астрончыку, што абазначае мой сон!

**Магдалена**

Магдаленка! Таму менавіта твой сон быў страшны, але не зусім, бо сніліся табе вужы, а не змеі. Ты ж, пэўна, ужо ў школе вучылася, што вужы найчасцей не бываюць ядавітыя. Таму і не было табе так страшна, як магло б быць, калі б сніліся змеі. О-о-о! Тады абазначала б гэта, што ёсць у цябе нейкія ворагі, якія хочуць пашкодзіць табе. Але адкуль у цябе могуць быць ужо ворагі? Мо толькі нядобрыя сяброўкі пазайздросцілі табе добрых адзнак ці хлопца, які ўзяў цябе патанцаваць на дыскатэцы... І гэта зайздрасць, у тваім выпадку, можа мець нязвыклыя памеры (як павільён, які пабудавалі перад вашым домам). Зайздрасць — пачуццё паскуднае, яе таксама варта асцерагацца.

**Астрон**

## Асноўны Божы дар

**Хлеб** — найбольш папулярны прадукт харчавання, аснова жыцця. Ён ніколі не прыядаецца. Прызнаны найцудоўнейшым падарункам прыроды.

Хлеб з'яўляецца сімвалам жыцця, дастатку і поспеху. Ён — асновай быту чалавека.

Хлеб усяму галава, — гавораць, — самае святое, што ёсць у чалавека, сімвал надзеі чалавека працы. Аб дрэнным, нядобразычлівым чалавеку гавораць: — Ён з нікім хлеба не ламаў, — і гэта адначасова абазначала, што такі чалавек не меў акрэсленага месца ў грамадстве. Калі аб кімсьці гаварылі: — Ён не з адной печы хлеб еў — гэта абазначала, што такі чалавек вопытны, дасведчаны і ўмее сябе паводзіць у кожнай сітуацыі, але і адначасова перасцерагалі перад ім. Бо свой чалавек еў хлеб са сваёй печы і гэтым хлебам дзяліўся.

У чым жа сіла і таямніца хлеба?

З хлебам спалучаюць усе найважнейшыя вартасці існавання — дастатак, добры плён, пладавітасць жанчын і жывёл, спакойнае і бяспечнае жыццё. Ён з'яўляецца крыніцай весялля, сямейнай і грамадскай радасці, сімвалам пашаны і ласкі.

Месца яго ў хаце знаходзілася ў святым куце, пад абразамі. Людзі верылі, што хлеб з'яўляецца асноўным божым дарам. Патрэбны быў як нованароджаным, так і памерлым. Калі нараджаўся чалавек, ахвяроўвалі хлеб, які меў спадарожнічаць яму праз усё жыццё, а таксама на тым свеце.

Непасрэдная пашана да хлеба выяўляецца між іншым у тым, што калі хлеб падаў на падлогу яго падымалі, абдзьмухвалі і цалавалі.

Сілу хлеба, з аднаго боку, трэба бачыць у таямніцы скрытага ў збожжавых зярнятках яго жыцця і вялікага стваральнага патэнцыялу, які яны маюць у сабе, у сваіх зародках, з другога — у здольнасці захоўваць жыватворную сілу ў іншай форме, калі здавалася б, усе гэтыя сілы зерня павінны былі быць знішчаны. Хлеб як спалучэнне зерня, вады і агню набывае новую якасць і новую сілу. **(апр. яц)**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. насавая адтуліна, 3. прэзідэнт ЗША ў 1969-74 г.г., 5. асобна ўзятая расліна, зернетка, 7. прэснаводная рыба, 9. верхні слой ствала дрэва, 10. вывучае старажытныя надпісы, 11. верхняя канечнасць, 12. нематэрыяльная аснова жыцця чалавека, 14. амплітуда, 16. металічны грош, 17. напр. спявак.

**Вертыкальна:** 1. італьянскі палярнік і канструктар дырыжабляў, 2. напр. Дунай, 3. перад табою, 4. сталіца Турцыі, 6. грамадскі парадак са свабодай вольнага прадпрымальніцтва, 8. кавалак дрэва, трэска, 9. від папугая, 11. гранічная рака між Танзаніяй і Мазамбікам, 13. шашачны ігрок, 14. частка доўгу, 15. горад над рэчкай Ахармар (Іран). **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 14 н-ра:

**Гарызантальна:** укол, ладан, уваход, ясак, выраб, Шліман, Магамаеў, пафас, алігатар, Панароўе, Нукус, Гайнаўка, аканне, аймак, маіс, удалае, Львоў, нета.

**Вертыкальна:** царыца, панама, Каспараў, Лукша, масіў, гоман, басурман, лезгінка, папа, фонд, стук, ярус, легаліст, Уайльд, умалот, шкода, гніль, Йемен.

### Міні-даведнік

**Ахар** — горад у іранскім Азербайджане.

## ПАРНАСІК

### Любі кнігу і чытай

Кнігу любі і чытай,
І шануй!
Цудоўны свет пазнавай,
Лішні час не марнуй.
Мы ў свеце прыгод,
Калі над кнігай
У кожны час і год
Час ляціць мігам.
Мы — удзельнікі многіх падзей,
Калі чытаем пільна.
Бачым у думках многа людзей
І перажываем сільна.
Перажываем за герояў сваіх,
Аб якіх прыгожа напісана,
Як праўдзівых, жывых
І да класікі далічаных.
Чытай кнігу, любі —
Яна прыяцель!
З ёю пастаянна жыві,
Кніга цемры карацель.
Яна свет адкрывае,
Бачым цудоўны гарызонт.
Усё, што добрае, праслаўляе,
Шлю ёй шчыры паклон.
Лішні час не марнуй —
Чытай кнігу!
Паважанне і радасць даруй,
Дастанеш духоўную адлігу.
Нішто яе не заступіць:
Ні тэлебачанне, золата, брыльянты...
Толькі трэба кнігу ад сэрца любіць,
Будзем тады пахавалы варты.
Што нядобрае — яна асуджае
І дае рашучы адпор.
Наверх выяўляе
Кожную злосць, і разбой.
Хто піша кнігу,
Гэта вялікі герой!
Хаця творыць яе ціха,
З цемраю і злом вядзе бой.
Слава нашым пісьменнікам і паэтам,
Што пішуць кнігі цудоўныя.
Віншую іх усіх вершам гэтым —
„Белавежцаў" любімых, родных.

**Мікалай Панфілюк**

### Зямелька

Зямелька ты наша,
Хаты і стадолы,
Была ты багатай
Людзьмі і жывёлай.

Людзі састарэлі,
Зямля ялавее,
Хаціны пусцеюць,
Жыццё ўсё цяжэе.

Вада ў магазіне
Каштуе нямала.
Малако ад каровы
Вельмі танным стала.

Як робіш зямельку —
Дарма папацееш,
А на рынак зойдзеш —
Кашалёк таўсцее.

Родная зямелька,
Кепска з намі будзе,
Калі ўсе ў гандаль
Кінуліся людзі.

Люд рабіць не хоча,
Такі стаў лянівы.
Здаюць у арэнду
Ўсе пашы і нівы.

Прасі арандатараў,
Што табой уладаюць,
Хай яны, зямелька,
Цябе не кідаюць!

**Ніна Мінько**



„Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Федзік

Задумаў Федзік ажаніцца,
Сам сабой пачаў хваліцца:
„У мяне кароў дастатак
І свіней прыгожы статак.
Вазьму жонку маладую,
Усё будзем даглядаці.
Удваіх стане весялей
Пражываць нам у хаце".
Паехаў ён за раку,
Якую Нарвай у нас звалі,
Там дзяўчаты працавіты,
Так яму сказалі.
Хоць па вёсках пахадзіў,
Нічога не ўдалося,
Бо дзяўчаты маладыя
Ў горад падаліся.
Федзік так халасцяком
Надалей застаўся,
Час ад часу папівае
Ды сябе развесяляе.

**Мікалай Лук'янюк**

## Добрай раніцы!

**1**

Добрай раніцы! Сёння ў краіне атмасферны ціск нізкі, вільготнасць нізкая, курс лева нізкі, нашы даходы нізкія, мараль палітыкаў нізкая, адзнакі нашых дзяцей у школе нізкія, інтэлектуальны ўзровень нізкі, наш прэзідэнт нізкага росту, нашая сексуальнасць — нізкая, прырост прамысловасці — нізкі, наш гемаглабін — нізкі, наша гігіена нізкая, нашыя паклоны нізкія, далягляды нашы нізкія, зарплаты нізкія, голас розуму нізкі, каэфіцыент карыснага дзеяння нізкі, наш жыццёвы мінімум нізкі.

І на ўвесь гэты тыдзень жадаем вам высокай свядомасці і добрага самаадчування.

**2**

Добрай раніцы! Частка нашага грамадства, прачытаўшы толькі што напісанае, зусім абгрунтавана пацікавілася, чаму мы сваім выступленнем гэтак псуём настрой і здароўе людзей яшчэ зранку і ці ёсць у нас хоць нешта высокае.

Ёсць!

Злачыннасць высокая. Інфляцыя высокая. Забруджанасць паветра высокая. Наш крывяны ціск высокі. Цэны высокія. Канцэнтрацыя нітратаў высокая. Дэпутат Венцы Дзімітраў высокага росту. Беспрацоўнасць высокая. Бог высока. Эміграцыя з Балгарыі высокая. Працэнты на пазыкі высокія. Ступень небяспекі нашай АЭС „Казладуй" высокая. Падаткі высокія. Дзіцячая смяротнасць высокая. Колькасць супрацоўнікаў тайных службаў высокая. Карупцыя высокая. Наш знешні доўг высокі.

Зразумела, што згодна з усім пералічаным мы жадаем вам высокага аптымізму і выдатнага самаадчування на наступны тыдзень!

**Станіслаў Страцееў**
*Пераклад з балгарскай*
*Венеты Георгіевай-Козаравай.*

## Наша пошта




## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Я ў нетыповай справе: пра каханне, але сямейнае. Я вырашыла табе напісаць пра маю праблему не адразу. Спачатку я думала, што так дзеецца толькі ў мяне. Пасля, па меры размоў з сяброўкамі і знаёмымі, я зразумела, што мая праблема — гэта праблема агульная. І тады вырашыла напісаць у рэдакцыю і папытацца, што ты думаеш на гэту тэму!

У мяне ёсць цесць і цешча. Што датычыць цесця, дык не магу пра яго сказаць кепскага слова, але што з таго, калі ён у хаце нават і не пісне. Пра ўсё вырашае цешча, якая ў іх доме і цар, і Бог, і воінскі начальнік. Праўда, мы не жывем разам з цесцямі, а асобна, але і так праблемы ёсць. А што было б, калі б мы жылі разам, нават не хачу ўяўляць сабе...

Мая цешча — надта прадпрымальная кабетка. Скажу праўду: усё ў яе руках гарыць. Моцная яна і энергічная. Выхавала сына (майго мужа) і дачку, а, пажаніўшы дзяцей, занялася не абы-якім бізнесам. Яна і раней мела прыватную краму, якую перапісалі ёй бацькі. Калі ў нас моцна ажывіўся прыватны гандаль, яна гэту краму пашырыла, павялічыла асартымент тавараў, усюды ездзіць, сочыць за модай — і людзі ў яе купляюць шмат ахвотней, чым у іншых.

Цесць ніколі не кінуў працы на дзяржаўнай пасадзе. Не цікавіў яго гандаль. Аднак жа, калі ёсць у яго вольны час, стараецца жонцы ў нечым дапамагчы — у хаце ці ў краме.

Чаму я пра гэта пішу? Бо ўсё вяду да таго, што ў цешчы поўныя кішэні грошай, а мы ледзь звязваем канец з канцом. Не, не скупая яна. Дачцэ купляе, што толькі тая папросіць для сябе ці дзяцей. Купілі ім кватэру, абсталявалі „экстра", пральні, лядоўкі, мэбля, дываны... Не скажу, і нам, як і ім, купілі самаход, але на гэтым усё скончылася. Дачцэ ж памагае пастаянна, быццам малому дзіцяці, хаця яны і самі працуюць на някепскіх пасадах. А мы — быццам чужыя людзі. Даччыным дзецям гатова аддаць усё, даслоўна вырваць сэрца з грудзей, а маім — нічога, быццам бы яны і не былі яе ўнукамі. Мне балюча чуць, як дзеці швагеркі часамі хваляцца, што во, маўляў, якія модныя штаны мне бабуля купіла, ці сукенку, ці куртку. А маім дзецям яе дабрыня невядома.

Нягледзячы на гэта, я сваім дзецям ніколі не сказала, што іх бабуля кепская. Але яны і самі ўжо заўважаюць яе холад (майму сыну дзесяць гадкоў, а дачушцы — восем), хаця і ім яна дае нейкія дробязі на Каляды ці імяніны. Часамі дасць ім нейкі грош замест падарунка і тлумачыцца, што мне яна не дагодзіць, дык лепш будзе, калі мы самі нешта купім. Толькі што сёння можна купіць за 100 тысяч, якія яна дала нашай малой на апошнія імяніны...

Але нават не тая ашчаднасць у адносінах да нашых дзяцей непакоіць мяне. Больш балючым для мяне з'яўляецца тое, што калі цешча паяўляецца ў нашай хаце, дзеці кідаюцца да яе як да бабулі. Яна ж хутка збывае іх і зачыняецца ў пакоі са сваім сынам. З ім у яе ёсць супольныя тэмы для размоў. Дзеці тады ходзяць сумныя, расчараваныя. Яны думалі, што прыйшла іх бабуля, а прыйшоў чужы, халодны ў адносінах да іх чалавек. А дзеці ж прагнуць цяпла.

Няўжо нельга быць настолькі аб'ектыўным, каб аднолькава трактаваць сваіх унукаў, без розніцы — даччыны гэта дзеці ці сынавы?

**Паўліна**

Паўліна! Справа, пра якую ты пішаш, сапраўды выступае ў нашым жыцці даволі часта. Нярэдка цешчы аддаюць перавагу дочкам, калі другое іх дзіця — сын. Іншая справа, калі ёсць у яе толькі сыны. Тады займаецца ўнукамі аднолькава або зусім не займаецца імі. Але сэрца яе дзеліцца больш роўна на ўсіх. А так то заўсёды суне курыную ножку, якую любяць усе дзеці, хутчэй даччыным дзеткам, чым сынавым. Хіба што выхоўвала б сынавых дзяцей ад нараджэння.

Дзеці дачкі — „свая" кроў, бо яна іх радзіла, а дзеці нявесткі — дзеці чужога чалавека, гэтак, на жаль, лічаць многія.

Свету не зменіш, трэба навучыцца жыць з гэтым. **Сэрцайка**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці ёсць нешта горшае за маладую хворую жонку?

— Ёсць: старая і здаровая.

* * *

— Як ты мог пакінуць жонку адзінокай! — папракае ксёндз Казіка падчас споведзі.

— Яна не адзінокая, пакінуў яе з дзецьмі.

* * *

— Коля, чаму наш сусед так лаецца?

— Або яму сабака ўцёк, або жонка вярнулася.

* * *

У краму з ружжом убягае знерваваная жанчына:

— Прадайце мне пісталет: абавязкова надзейны і з патронам...

— Ён патрэбны вам для абароны?

— Не, для абароны то я вазьму сабе адваката.

* * *

— Коля, пасталей, ажаніся, — просіць маці сына. — Напэўна знойдзеш дзяўчыну, якая будзе мець такія ж зацікаўленні, як і твае.

— Мама! А навошта мне такая, якая п'е гарэлку і ганяецца за спаднічкамі.

* * *

Сустракаюцца дзве сяброўкі:

— Ой каханая, як ты пахудзела! Што дзеецца?

— Гэта праз мужа... П'е і б'е мяне.

— Заяві пра гэта на паліцыю або выкінь яго.

— Не магу, у мяне яшчэ сем кілаграмаў лішняй вагі.

* * *

Гутараць два калегі:

— Ведаеш, у мяне вялікая прэтэнзія да цябе, што ты спаў з маёй жонкай.

— Што ты! Я нават і вока не заплюшчыў.